ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!
# Каталіцкі ВЕСНІК
№4 (97) красавік 2019 год
CATHOLICNEWS.BY



## Вялікдзень 2019

**Паважаныя святары, браты і сёстры манаскіх супольнасцяў, дарагія вернікі і ўсе людзі добрай волі!**

Мінуў Вялікі Пост, і мы сустракаем Уваскрослага Хрыста, пачуўшы Яго словы, якія ў дзень свайго Уваскрасення Ён сказаў сваім апосталам: "Спакой Вам!"(Лк 24,34). Гэты спакой каштаваў Хрысту страшных пакутаў і Крыжовай смерці. Аднак Ён не зводзіць з намі рахунак, толькі прагне, каб падараваная нам ласка не была адкінута і змарнавана. І таму Езус шукае тых, хто гэты спакой будзе здольны прыняць.

Як казаў Ён калісьці сваім вучняў, высылаючы з місіяй абвяшчаць Божае Валадарства, "калі дом будзе годны, то няхай сыдзе спакой ваш на яго"(Мц 10,13). Як вернікі будзьма першымі сярод тых, хто прыняўшы гэты дар гатовы дзяліцца ім з тымі, хто ёсць побач. Хрыстос здольны прайсці нават праз замкнёныя дзверы, як у Велікодную раніцу да сваіх вучняў, аднак Ён прагне, каб сэрца, да якога стукаецца і якое яшчэ чагосьці, магчыма, не разумее і нават баіцца, не было крывадушным і абыякавым. Каб прынамсі яно шанавала тое, што Бог зрабіў для яго збаўлення, і з павагай ставілася да кожнага знаку Яго міласэрнай Любові.

Хрыстос перамог зло і смерць і запрашае нас стаць удзельнікамі гэтай перамогі. Яго пустая магіла сведчыць пра тое, што няма такой сілы, якая магла б перакрэсліць Божыя намеры. Нават калі хтосьці спрабуе гэта рабіць, яму спадарожнічае малітва Хрыста: "Ойча, прабач ім, бо не ведаюць, што робяць"(Лк 23,34).

Дык будзьма паслядоўнікамі нашага Уваскрослага Настаўніка, каб разам з Ім мы станавіліся будаўнікамі Яго Валадарства ў нашай Краіне! Няхай святло Яго Уваскрасення разгоніць цемру духоўнай ночы і асвеціць нашыя розум і сэрца, каб мы вялі годнае жыццё тут, на зямлі, і гэтым праслаўлялі нашага Міласэрнага Айца ў Нябёсах!

**Радасці, Святла і Божага спакою!**
**Хрыстос Уваскрос і жыве сярод нас! Алелюя!**

**+Алег Буткевіч**
**Біскуп Віцебскі**

## Падсвільскія вернікі: "З новым ксяндзом усё ў нас будзе добра!"



Стар. 6-7

## Вялікая Серада: Імша Хрызма ў Віцебскай катэдры



Стар. 8



Больш матэрыялаў чытайце на сайце Catholicnews.by



# Святы Айцец заклікае вернікаў ставіцца да малітвы сур'ёзна

**Быць настойлівымі ў малітве заклікаў вернікаў Папа падчас ранішняй Эўхарыстыі, якую цэлебраваў 4 красавіка 2019 г. у капліцы Дома св. Марты. На ёй прысутнічаў Прэзідэнт Італіі Сэрджа Матарэла.**

Угамііі Папа Францішак засяродзіў увагу на малітве – адным з фундаментальных элементаў падрыхтоўкі да Пасхі. Ён падкрэсліў важнасць заступніцкай малітвы, а ў якасці прыкладу ўзгадаў Майсея, які прасіў Бога не караць выбраны народ за вераадступніцтва. Майсей размаўляў з Богам лагодна, але настойліва, нагадваючы пра абяцанні, якія Ён даў Абрагаму, Ісааку і Якубу.

Святы Айцец заўважыў, што такіх прыкладаў заступніцтва існуе вельмі шмат на старонках Біблії. Яшчэ адзін – гэта малітва Абрагама, які настойліва прасіў Бога не знішчаць насельніцтва Садомы, бо сярод шматлікіх грэшнікаў там былі і справядлівыя людзі.

Іншым спосабам можа быць малітва Ганны, маці Самуэля, якая вельмі хацела нарадзіць сына і шмат прасіла пра гэта Пана – ціха, але вельмі настойліва. Таксама была хананэйская жанчына з Евангелля св. Мацвея, якая прасіла за сваю дачку, апанаваную злым духам. Нягледзячы на тое, што Езус спачатку ёй нібыта адмовіў, жанчына "не спалохалася", працягнула прасіць і нарэшце атрымала тое, што хацела.

Папа Францішак заўважыў, што для такой малітвы, якая з'яўляецца размовай з Богам тварам у твар, патрэбна вялікая адвага. Не хопіць проста прамовіць "Ойча наш" і "Вітай, Марыя": неабходна ўкласці ў малітву ўсяго сябе, быць упэўненым, што Езус цябе слухае, што Ён заступаецца за цябе перад Айцом.

Завяршаючы сваю гамілію, Папа заклікаў вернікаў ставіцца да малітвы сур'ёзна, усведамляючы, што яна адбываецца ў прысутнасці Езуса.

*Беларуская рэдакцыя Vatican News*

# Пантыфік паедзе ў Мазамбік, на Мадагаскар і Маўрыкій

**Папа Францішак паедзе з пілігрымкай у тры краіны Паўднёва-Усходняй Афрыкі. Пра гэта паведаміла 27 сакавіка Зала Друку Святога Пасаду.**

Прымаючы запрашэнне дзяржаўнага і касцельнага кіраўніцтва, Папа Францішак здзейсніць Апостальскі візіт у Мазамбік, на Мадагаскар і Маўрыкій. Візіт адбудзецца з 4 па 10 верасня гэтага года. Пантыфік наведае Мапуту ў Мазамбіку, Антананарыву на Мадагаскары і Порт-Луі на Маўрыкіі.

Праграма падарожжа будзе апублікавана пазней ва ўстаноўленым парадку.

*Беларуская рэдакцыя Vatican News*



### Каталіцкая капліца ў анкадыспансеры ў Віцебску

У Віцебскім абласным клінічным анкалагічным дыспансеры па адрасе вул. П. Броўкі, 33 дзейнічае каталіцкая капліца. Святая Імша адпраўляецца кожны аўторак а 16.00. Ёсць магчымасць запрасіць святара ў палату.
**Тэл. +375(29) 510-20-77 кс. Андрэй Аніскевіч**
**Тэл. +375(29) 894-55-11 сп. Яўгенія**

### Пакой для малітвы

у Віцебскай абласной бальніцы знаходзіцца на другім паверсе галоўнага корпуса каля ліфта з боку неўралагічнага аддзялення.

Малітва – набажэнствa, магчымасць сустрэчы з каталіцкім святаром: сакрамантальная паслуга, размова, кожны аўторак, чацвер і пятніцу з 17.00.
Са святаром можна скантактавацца па тэлефоне: + 375 29 78 51 298

**Больш навін, здымкаў і відэа на нашым сайце Catholicnews.by**

# Смяротнае пакаранне: даклад Amnesty International і пазіцыя Святога Пасаду

**Па рашэнні судоў у 2018 года ў 20 краінах пакаралі смерцю як мінімум 690 асобаў. Гэта на 31% менш, чым у 2017 годзе. Папа і Святы Пасад выступаюць за поўную адмену такога віду пакарання.**

Amnesty International апублікаваны даклад пра сітуацыю з прымяненнем смяротнай кары ў свеце. Самыя высокія паказчыкі – у Кітаі, Іране, Сірыі, В'етнаме і Іраку. У некаторых краінах існуе тэндэнцыя да росту колькасці смяротных прысудаў: гэта Беларусь, Японія, Сінгапур, Паўднёвы Судан і Злучаныя Штаты Амерыкі. Тайланд вярнуўся да смяротнага пакарання ў 2009 годзе, а Шры-Ланка абвясціла пра аднаўленне пакараннняў смерцю пасля больш чым 40 гадоў. Тым не менш, у канцы 2018 года былі 142 дзяржавы, якія адмянілі смяротнае пакаранне ў законе або на практыцы.

Беларусь застаецца адзінай краінай у Еўропе, дзе выносяцца і выконваюцца смяротныя прысуды. Пра пакаранні не паведамляецца загадзя, целы забітых сваякам не выдаюць. Праз некаторы час пасля выканання прысуду ім дасылаюць даведку пра смерць і асабістыя рэчы асуджанага.

Папа неаднаразова заклікаў краіны, дзе засталося смяротнае пакаранне, прыняць мараторый на яго прымяненне з мэтай канчатковай адмены. Смяротнае пакаранне супярэчыць Евангеллю, бо прадугледжвае знішчэнне святога ў вачах Стваральніка жыцця, якога толькі Бог з'яўляецца сапраўдным суддзёй і гарантам, казаў ён 17 снежня 2018 года падчас сустрэчы ў Ватыкане з дэлегацыяй Міжнароднай камісіі супраць смяротнага пакарання.

Некаторы час таму Францішак унёс змены ў Катэхізіс Каталіцкага Касцёла. У новай рэдакцыі гаворыцца, што "смяротнае пакаранне недапушчальнае, бо з'яўляецца замахам на непарушнасць і годнасць чалавека".

Amnesty International выступае супраць смяротнага пакарання ва ўсіх выпадках без выключэння, незалежна ад сутнасці і абставін злачынства, вінаватасці, невінаватасці, асобы злачынцы або метаду, якім дзяржава карыстаецца для пазбаўлення жыцця.

*Беларуская рэдакцыя Vatican News*

# Газета "Каталіцкі Веснік" перамагла ў конкурсе рэгіянальнага друку Віцебшчыны

**Віцебская абласная арганізацыя ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны" падвяла вынікі чарговага агляду-конкурсу рэгіянальнага друку Віцебшчыны па ўжыванні беларускай мовы "З беларускім словам". Газета "Каталіцкі Веснік" заняла першае месца ў намінацыі "Недзяржаўныя выданні".**

Вынікі агляду-конкурсу зацверджаны на пасяджэнні Віцебскай абласной рады ТБМ 17 лютага 2019 года.

Як паведамляе старшыня Віцебскай абласной арганізацыі ТБМ Юрась Бабіч, мэтай агляду-конкурсу было заахвочванне рэдакцый да паўнавартаснага выкарыстання дзяржаўнай беларускай мовы на старонках газет; папулярызацыя беларускай культуры і гісторыі Беларусі; інфармаванне органаў улады, грамадскасці пра стан ужывання беларускай мовы ў сродках масавай інфармацыі вобласці. Згаданы агляд-конкурс праводзіцца абласной арганізацыяй ТБМ на Віцебшчыне рэгулярна і ў некалькіх катэгорыях:

- абласныя, гарадскія газеты;
- раённыя газеты;
- недзяржаўныя выданні;
- ведамасныя выданні.

Пры падвядзенні вынікаў агляду-конкурсу ўлічвалася выкарыстанне беларускай мовы ў ходзе падрыхтоўкі матэрыялаў супрацоўнікамі рэдакцый, наяўнасць беларускамоўных публікацый творчага характару і літаратурных старонак, культура мовы, выступленні афіцыйных асоб на старонках газет па-беларуску, ужыванне беларускай мовы ў выступах у друку святароў, а таксама беларуская мова ў тэкстах віншаванняў, спачуванняў, рэкламы і абвестак.

У склад журы агляду-конкурсу ўваходзілі выкладчыкі ВНУ, настаўнікі беларускай мовы і літаратуры, прафесійныя журналісты – сябры Беларускай асацыяцыі журналістаў, пісьменнікі, грамадскія дзеячы, кіраўнікі абласной арганізацыі ТБМ.

У намінацыі "Недзяржаўныя выданні" журы прысудзіла перамогу, як і папярэдні раз, адразу двум газетам: **"Каталіцкаму Весніку"** *(галоўны рэдактар* – ***кс. Віктар Місевіч****)* і **"Вольнаму Глыбокаму"** – *(галоўны рэдактар –* ***Уладзімір Скрабатун****).*

Нагадаем, што сайт "Каталіцкага Весніка" таксама заняў першае месца па наведвальнасці сярод беларускамоўных сайтаў Віцебшчыны.




## У Оршы ўзнікла рэлігійная ініцыятыва "Лекі з духоўнай аптэкі"

**З нагоды святкавання 20-годдзя Віцебскай дыяцэзіі ў парафіі Беззаганнага Сэрца Марыі ў г. Орша была заснавана рэлігійная ініцыятыва "Лекі з духоўнай аптэкі". Яе заданнем з'яўляецца новая методыка перakазу Добрай Навіны.**

Гэта своеасаблівая форма катэхізацыі, мэта якой – імкненне наблізіцца да Бога праз разважанне над Божым Словам і асабістую жывую размову праз малітву.

Лагатыпам акцыі выступае зрэзанае сэрца, якое Хрыстус аздараўляе.

Пры кожнай нагодзе на канкрэтную тэматыку будзем старацца выдаваць новую "порцыю" духоўных лекаў.

Духоўныя лекі нам неабходныя штодня. Цяпер мы перажываем час Вялікага посту. У гэтым месяцы прапануем духоўныя лекі "МЕТАНОЯ". Заахвочваем лекавацца разам, асабліва падчас перажывання Крыжовага шляху. Гэта цудоўны падарунак для нас і нашых сяброў.

Запрашаем да карыстання духоўнымі лекамі!

Ахвараванні за духоўныя лекі будуць прызначаны на патрэбы Парафіяды дзяцей і моладзі Віцебскай дыяцэзіі.

**Кантакты:** +37529 216-99-82 – кс. Валерый Орсік.

e-mail: parafiadavd@mail.ru

## 120 хлопцаў прынялі ўдзел у дванаццатым турніры міністрантаў у Жодзіне

**5 і 6 красавіка ў Жодзіне прайшоў дванаццаты турнір міністрантаў.**

Сёлетняя сустрэча стала незвычайнай дзякуючы таму, што сабрала рэкордную колькасць удзельнікаў – амаль 120 хлопцаў з розных парафій. Гэтым разам да спісу пастаянных удзельнікаў – Барысава, Друі, Маладзечна, Мінска, Смалявічаў, Оршы – далучылася каманда міністрантаў з Глыбокага.

За вялікі кубак хлопцы змагаліся ў шматлікіх катэгорыях, сумяшчаючы выпрабаванні сваіх спартыўных талентаў, інтэлектуальных здольнасцяў і літургічнай падрыхтоўкі. Апрача духоўнай часткі праграмы, якая ўключала ў сябе св. Імшу на пачатак сустрэчы і на заканчэнне, Крыжовы шлях і конкурс літургічных ведаў, безумоўна, адным з самых яскравых момантаў сустрэчы стаў турнір па міні-футболе. Малы кубак тут сярод малодшых міністрантаў заваявала каманда з Барысава, сярод дарослых – з парафіі Мінск-Сухарава. Да таго ж хлопцы з Сухараўскай парафіі занялі першыя месцы ў конкурсе "Што? Дзе? Калі?" і праявілі сябе найлепшым чынам у інтэлектуальнай гульні па літургічных ведах.

Каманда з Друі змагла адзначыцца адразу ў трох катэгорыях, заняўшы першыя месцы па настольным футболе, настольным тэнісе і ў каманднай эстафеце.

Па выніках агульнага заліку пераможцамі сталі міністранты з парафій Мінск-Кунцаўшчына, Жодзіна, Мінск-Сухарава.

Трэба сказаць, што гэты турнір адзначыўся высокім узроўнем камандаў і тым, што да апошняй хвіліны немагчыма было адказаць на пытанне, хто ж возьме вялікі кубак.

Скончыліся спаборніцтвы св. Імшой, пасля якой адбылася цырымонія ўзнагароджання ўдзельнікаў і пераможцаў. Кожны міністрант атрымаў памятныя прызы, якія да наступнай сустрэчы будуць нагадваць пра гэтыя цудоўныя дні.

*Паводле матэрыялаў сайта catholic-zhodzina.by*



# Заява Старшыні Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі адносна сітуацыі ў Курапатах

**Заява арцыбіскупа Тадэвуша Кандрусевіча – Мітрапаліта Мінска-Магілёўскага, Старшыні Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі**

Праходзячы за мяжой курс рэабілітацыі пасля складанай аперацыі па стабілізацыі пазванкоў металаканструкцыямі, я, тым не менш, сачу за падзеямі, якія адбываюцца на маёй Радзіме.

Сёння сродкі масавай інфармацыі напоўнены трывожнымі звесткамі пра знос крыжоў у Мемарыяльным комплексе ва ўрочышчы Курапаты, якое разам са шматлікімі іншымі падобнымі месцамі на нашай Бацькаўшчыне з'яўляецца яе Галгофай і адначасова помнікам гісторыі і культуры.

Праблема Курапатаў цягнецца ўжо даўно і мае глыбокія карані, але яе неабходна як мага хутчэй вырашыць.

Пасля таго, як напрыканцы 80-х гадоў мінулага стагоддзя шырокай грамадскасці стала вядома пра месца злачынстваў, неабходна было правесці адпаведныя і грунтоўныя даследаванні, як гэта зроблена ў іншых падобных месцах масавых пахаванняў, каб мець упэўненасць у тым, што тут адбылося.

Кожнае месца смерці і пахавання паводле хрысціянскай (і не толькі) традыцыі ўшаноўваецца. Гэтае месца святое: месца памяці і малітвы.

Гэта таксама неад'емная частка гісторыі народа, без пазнання і ацэнкі якой ён не мае будучыні. Кожны народ павінен ведаць і паважаць гістарычную праўду з мэтай ачышчэння памяці, як да гэтага заклікае св. Ян Павел II, каб паспяхова будаваць шчаслівую будучыню.

На жаль, своечасова гэта не было зроблена, і ў выніку пачалі ўзнікаць праблемы.

У кастрычніку было паведамлена, што да канца мінулага года ў Курапатах будзе ўстаноўлены памятны знак, каля якога таксама можна будзе памаліцца. Аднак ніхто не спытаў у прадстаўнікоў розных веравызнанняў, як павінна выглядаць месца малітвы, асабліва капліца: ці яна павінна быць міжканфесійнай і міжрэлігійнай, ці, можа, лепш кожнаму веравызнанню мець сваю.

Між тым неабыякавыя да трагедыі масавых забойстваў людзі прыходзілі ў Курапаты, каб памаліцца, і імкнуліся нейкім чынам пазначыць гэтае месца і ўшанаваць памяць забітых і пахаваных тут продкаў і суайчыннікаў.

Такім чынам ва ўрочышчы з'явіліся крыжы, як гэта спрадвеку прынята рабіць на магілках і ў месцах пахаванняў. Крыжы ставілі без афіцыйнага дазволу, але ўлада не забараняла гэтага рабіць.

За апошнія 30 гадоў паступова з'явіўся своеасаблівы "Курапацкі пантэон" – стыхійны мемарыял, вядомы ва ўсім свеце.

Таму нечаканы знос крыжоў выклікае, мякка кажучы, здзіўленне. Ніхто не кажа пра тое, што не трэба ўпарадкаваць тэрыторыю ўрочышча Курапаты, але ж не коштам абразы пачуццяў вернікаў. Я лічу, што неабходна арганізаваць грамадскае абмеркаванне плану ўпарадкавання тэрыторыі Курапатаў з удзелам прадстаўнікоў розных веравызнанняў.

Больш за тое, акцыя зносу крыжоў праводзіцца падчас Вялікага посту, калі ўсе хрысціяне свой позірк скіроўваюць на Крыж Хрыста – знак нашага збаўлення і надзеі. З крыжам ваявалі атэісты, нішчылі яго. На вялікі жаль, сёння, калі афіцыйна няма дзяржаўнай ідэалогіі атэізму, яна зноў рэальна праяўляецца.

Заклікаю адказных за знос крыжоў тэрмінова спыніць гэтыя дзеянні і шляхам дыялогу розных палітычных і грамадскіх сіл з удзелам прадстаўнікоў розных веравызнанняў распачаць працэс урэгулявання сітуацыі.

Наша краіна патрабуе стабільнасці, а разгойдванне чоўна палітычнага і грамадскага жыцця супярэчыць гэтаму. Крыж не павінен падзяляць, бо ён яднае неба з зямлёю, а людзей – паміж сабою ў адзіную сям'ю братоў і сясцёр. Нездарма нават вядомы кожнаму з першага класа знак складання выглядае менавіта як крыжык.

З надзеяй і малітвай аб мірным вырашэнні праблемы

**Арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч – Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі, Старшыня Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі**

**Беласток, 4 красавіка 2019 г.**

*Catholic.by*



# Ці пойдзеш за Мной на вяршыню?

**12 красавіка ў Паставах адбыўся Крыжовы шлях па вуліцах горада.**

**Аліна Латыш**

Традыцыя Крыжовага шляху па горадзе ў нашай парафіі існавала даўно. Не адзін раз пастаўскія вернікі давалі сведчанне сваёй веры, робячы стацыі на вуліцах, ідучы з крыжамі ў руках і прамаўляючы словы малітваў: за парафію, за моладзь, за кансэкраваных асобаў, за братоў праваслаўных і за нявернікаў, за залежных, за сем'і, за хворых. Разважанні стацый заўсёды краналі, узрушвалі, таму што пісаліся "па-жывому", ішлі з праблем штодзённага жыцця.

Гэты Крыжовы шлях быў асаблівым. Па-першае, ён злучыў дзве парафіі: пачынаўся каля касцёла святога Антонія, а закончыўся ў навастворанай парафіі, ля капліцы Езуса Міласэрнага. Па-другое, быў не парафіяльным, а дэканальным: са святарамі і сёстрамі законнымі прыехалі прадстаўнікі ўсіх іншых парафій Пастаўскага дэканата. Гэта вельмі кранула, дало адчуванне еднасці.

Па-трэцяе, цікавай стала форма разважанняў. Гэта быў дыялог Хрыста і чалавека. Хрыстос, ідучы сваім крыжовым шляхам, заклікаў людзей да супрацоўніцтва, да веры і вернасці Яму. Словы чалавека чыталі прадстаўнікі парафій, а словы Езуса – ксёндз Эдвард, вікарый парафіі святога Антонія ў Паставах. І апошняе: на гэты раз мы ішлі з запаленымі знічамі – святлом Хрыста. І паставілі іх ля падножжа крыжа ў парафіі Езуса Міласэрнага.

Распачалася гэта падзея ўрачыстай Імшой у касцёле святога Антонія. Перад ёй і пасля яе – прыемныя сустрэчы з парафіянамі з Лынтупаў, Камаяў, Варапаева, Дунілавічаў, Лучая... Першымі ўзялі цяжкі крыж сем'і. Пасля па чарзе яго неслі прадстаўнікі розных мікраёнаў горада і іншых парафій. Ля кожнай стацыі мяняліся па папярэдняй дамоўленасці тыя, хто нёс крыж. Але былі і такія, хто прыйшоў на Крыжовую дарогу, убачыў гэтае шэсце – і вырашыў: я таксама павінен яго несці! Падыходзілі да крыжа і, як Сымоны Кірынейцы, прапаноўвалі дапамогу.

У гэтым Крыжовым шляху, нягледзячы на халоднае надвор'е і стомленасць пасля працоўнага тыдня, удзельнічала больш за тысячу чалавек. Прыйшлі на яго людзі розных узростаў, пачынаючы з самых маленькіх, якіх бацькі везлі ў вазочках, і заканчваючы людзьмі сталага ўзросту. Ва ўсіх жыло вялікае жаданне: быць разам з Езусам на Яго Крыжовым шляху, быць для Яго Сымонам Кірынейцам або адважнай Веранікай.

У Крыжовым шляху таксама духоўна ўдзельнічалі хворыя, пажылыя: яны адпраўлялі крыжовыя дарогі дома, сабраўшыся групамі і чытаючы тыя ж самыя разважанні.

На заканчэнне Крыжовага шляху ксёндз-пробашч Вадзім Прасяной падзякаваў усім святарам, парафіянам, гасцям. Таксама ён выказаў удзячнасць супрацоўнікам ДАІ, якія ахоўвалі ўдзельнікаў ад небяспекі, медыкам "хуткай дапамогі", што суправаджалі шэсце.

Людзі разыходзіліся, раз'язджаліся, узрушаныя развагамі, напоўненыя адчуваннем еднасці, моцы. І адначасова адчуваннем пакоры, гатоўнасцю прыняць Божую волю, задумваліся над пытаннямі, якія на гэтай Крыжовай дарозе паставіў Хрыстос:

– Я хачу табе аддаць дар Маёй любові. А ці ўсё прыняць захочаш, чаго Я пажадаю?

– Ці ўсё аддасі, што Я захачу ўзяць?

– Ці пойдзеш за Мной на вяршыню?

– Ідзі на вяршыню, чалавек!

Суцяшалі, грэлі, падбадзёрвалі і давалі ўсім вялікую надзею Ягоныя словы: "Я даю табе веру, надзею, любоў, якія падмануць не могуць. Гэта спраўдзілася. Заўсёды ёсць Хтосьці, Хто чакае, Хто глядзіць на дарогу, мае адкрытыя абдымкі, гатовыя цябе прытуліць".








# Мы памятаем яго такім ...

**На 9 мая 2019 года прыпадае сёмая гадавіна смерці ксяндза-каноніка Уладаса Пятрайціса.**

У памяці вернікаў ксёндз Уладас Пятрайціс застанецца чалавекам шчырай дабрыні, які адзначаўся прастасцю, адкрытасцю і сардэчнай адданасцю справе Касцёла на Мёршчыне, а таксама ў Слабодцы і Іказні Браслаўскага раёна.

Ён прыехаў у Мёры ў 1985 годзе. Малады, але ўжо цвёрды ў веры, паслухмяны Божай волі і прынцыповы ў яе выкананні.

Ксёндз Уладас Пятрайціс гаварыў, што касцёл – гэта месца, дзе Бог чакае ўсіх. Нават тых, хто пакуль яшчэ не знайшоў дарогу да Бога. Для большасці з нас ксёндз Уладас Пятрайціс быў духоўным айцом. А мы былі яго дзецьмі, незалежна ад свайго ўзросту.

Гэта быў чалавек з вялікім сэрцам, адкрытым для кожнага. Мы заўжды маглі знайсці ў ім падтрымку, ксёндз мог штосьці параіць, у чымсьці дапамагчы. Гэта быў чалавек малітвы. Ён маліўся і перажываў за ўсіх нас. І мы гэта адчувалі.

9 мая 2012 г. у Іказні яго вялікае, добрае сэрца спынілася назаўсёды. І вернікі страцілі добразычлівага, душэўнага святара. Яго смерць стала вялікай стратай для нас усіх.

Ксёндз Уладас Пятрайціс быў светлым, добрым, сардэчным чалавекам. Ён быў сапраўдным вернікам, усё яго жыццё было прысвечана Богу і людзям. І ўсё яно было як бы на бягу. Ксёндз не хадзіў, а больш бегаў, стараўся ўсё рабіць хутка.

Пражыўшы 57 гадоў на гэтай зямлі, ксёндз Уладас Пятрайціс пакінуў добры след у душах многіх людзей. Ён аддана, з радасцю выконваў свае святарскія абавязкі. Ксёндз з лёгкасцю ішоў у касцёл рана, у святы, ва ўрачыстасці або ў звычайныя дні, маліўся, спавядаў усіх ахвотных і заахвочваў да споведзі. Для кожнага ён знаходзіў патрэбныя словы, дарыў нам душэўны спакой, надзею на лепшае.

У час яго служэння ў Мёрах касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі асацыяваўся з яго дзейнасцю. Гэта яго мудрыя і адметныя казанні з амбоны, яго споведзь, гэта яго актыўная праца. Яго паважалі і цанілі.

Жыццё ксяндза Уладаса Пятрайціса можна параўнаць са свечкай, якая гарэла ярка, давала святло, і мы, яго парафіяне, адчувалі гэтае цяпло. Ксёндз Уладас заўжды быў даступны, любіў сваіх парафіян з усімі іх слабасцямі і недахопамі.

Вельмі шкада, што больш няма побач з намі такога святара, такога чалавека, які шчыра радаваўся і суперажываў разам са сваімі вернікамі.

Ксёндз Уладас Пятрайціс быў упэўнены, што толькі ў служэнні Богу можна здабыць спакой і шчасце. І мы шчыра верым, што наш шаноўны ксёндз знайшоў супакой на небе і адтуль апякуецца над намі, яго былымі парафіянамі. А мы памятаем яго ў сваіх малітвах!

Вечны адпачынак, дай яму Пане...

***Ад імя вернікаў, Алена Сакалоўская***

# Радавацца і радаваць – годны занятак хрысціяніна!

**Хрыстос Уваскрос! Радасны час настаў! І таму сёння мы закранаем тэму радасці і свята...**

**Таццяна Палхоўская**, *псіхолаг*



Як шмат мы гаворым пра значэнне хрысціянскіх святаў, як доўга мы рыхтуемся да важнага дня, якую няпростую працу выконваем па прыборцы дома, па гатаванні асаблівых страваў. Маю спадзяванне, што не толькі знешнія справы займаюць наш час, але і духоўных высілкаў мы прыкладаем нямала: пост, малітва, розныя набажэнствы, валанцёрскія клопаты. Але як жа так выходзіць, што пасля стольких намаганняў часта на само свята ніякай радасці мы не адчуваем?

Адказаў я не маю, але крышачку паразважаць гатова.

Мяне заўжды палохаюць сямейныя застоллі: ем я хутка, а што рабіць за сталом палову дня – не ведаю. Да таго ж ад нудоты людзі часта пераядаюць, таму, акрамя цяжару ў страўніку і граху, нічога з такога святкавання не будзе. Вы згодныя?

Мне ў такія дні вельмі не хапае супольных перажыванняў (яны заканчваюцца пры выхадзе з касцёла) і цікавых заняткаў.

У дзяцінстве было прасцей з заняткамі і эмоцыямі. Напрыклад, на Вялікдзень маці з самага ранку налівала ў ночвы вады і кідала туды чырвонае яечка, а мы, дзеці, як прачнёмся мылі гэтай вадой твар.

Чаму, не ведаю, але настрой уздымаўся імгненна. Бабуля даставала з печы булкі, сярод якіх абавязкова была і мая, самая маленькая і крывенькая, але найбольш смачная (так казаў кожны дарослы, які абавязкова каштаваў маю булачку). А дзед прыносіў адмыслова выраблены драўляны жолаб, клаў яго на парог, а дзеці па чарзе качалі з дошчачкі чырвоныя яйкі. Глядзелі, чыё пакаціцца далей, чыё паб'ецца, чыё перамажа. Дарослым было цікава таксама, і яны пацыху далучаліся.



І вось ужо нікога няма за сталом, усе на падлозе, ля парожка. Аб'яднаныя супольнымі перажываннямі і цікавымі заняткамі...

Я гэта ўсё да чаго? Для свята нам патрэбная асаблівая атмасфера, якую мы можам стварыць толькі самі. Вы бачылі аздобленыя стужкамі, кветкамі і прыгожымі спевамі нашыя касцёлы? Мы можам браць прыклад і рыхтаваць наш дом гэтаксама. А яшчэ даставаць з шафы адмысловыя строі (я люблю вышыванку і пас), тое, што мы не носім штодня, але што падкрэслівае асаблівасць падзеі.

Не думаю, што трэба тыдзень рыхтаваць безліч ежы на стол. Мяркую, лепш узяць за звычку гатаваць усёй сям'ёй, разам з дзеткамі і раннімі гасцямі некалькі традыцыйных страў на абед, фарбаваць яйкі. Так вы атрымаеце магчымасць цікава правесці час разам і не ператвараць свята ў адно толькі спажыванне прадуктаў.

Традыцыі варта заводзіць не толькі ў ежы, але і ў баўленні часу: сумесныя спевы, гульні, шпацыры, пошукі загадзя схаваных яек ці цукерак, чытанне Бібліі і любімых гісторый, абмен цыдулкамі з цёплымі словамі, нечаканыя апытанкі для кожнага з сям'і, тэатральныя пастаноўкі ды шмат іншага. Ну і, вядома, падарункі! Неабавязкова штосьці маштабнае, але абавязкова цікавае і мілае.

Я адмыслова не пішу тут пра духоўную падрыхтоўку і перажыванні. Тое, што адбываецца ў адносінах з Богам, заўжды застаецца самым важным і цудоўным. Мне хочацца падкрэсліць перажыванне свята паміж людзьмі, бо мы самі здольныя стварыць сапраўднае, запамінальнае і каштоўнае свята для сябе і сваіх бліжніх. Я думаю, радавацца і радаваць – гэта годны занятак для хрысціяніна!

Дзякуй за ўвагу! Радасных вам святаў!

# Подросток в семье: учимся правильно вести себя в ситуации конфликта

**В вопросах оказания психологической помощи в подростковом возрасте чаще всего всё наше внимание фокусируется на личности самого подростка, на том, что ему тяжело и сложно. И при этом мы как-то забываем о родителях, которым тоже не менее сложно, и которым нужно помочь научиться выстраивать некие защитные механизмы при общении и взаимодействии с подростком.**

**Марина Ткач**, *магистр психологии*



Конечно, в идеале, чтобы не испытывать эмоционального дискомфорта, лучше всего не вступать в конфликт, но если избежать его все-таки не удалось или вы ненамеренно оказались в эпицентре конфликтной ситуации, то следующие советы позволят выйти из сложной ситуации с наименьшими потерями.

Прежде всего, правильное поведение может быть вызвано... только правильным поведением. О чём это я? Да о том, что начинать всегда нужно с себя. Вы как родители являетесь образцом для своих детей. Поэтому задайте правильный тон в поведении, общении, реагировании т.д. Станьте носителем того поведения, которого ждете от подростка. Если вы, например, эмоционально-раздраженным тоном спросите у подростка, почему он задержался из школы, он точно в таком же тоне вам ответит, хотя до этого у него не было намеренья так себя вести. И вот оно – начало конфликта... То, что вы посылаете ребенку, получаете в ответ.

Но и ставить себя в пример тоже не нужно. Вообще никого не нужно ставить в пример, это лишь усилит негатив. С вашей стороны нужно лишь доминирующее уважение, корректность и отношение к подростку как к взрослому – все это лишит потребности подростка утверждаться привычными для него способами (конфликты, оскорбления, дерзость и т.д.) Отношение к нему как к взрослому как бы «обволакивает» подростка и мешает поступать так, как он привык. А еще это обязывает формировать в себе новые, «взрослые» способы поведения.

Дети, и подростки в том числе, уважают силу. Но я не о физической силе (хотя ею тоже могут восхищаться), а о внутренней. Истерики, возмущенные выкрики, театральные сцены с обмороками и всевозможными причитаниями, попытки ударить во время ссоры или конфликта с подростком выставят вас не в лучшем свете. Запомните: в такие минуты ваш ребенок видит и воспринимает вас как слабых и даже жалких людей и тем самым лишается уважения к вам. Думаю, это не то, чего вы хотите...

Если возник конфликт, то обходитесь без упреков и напоминаний о недостатках. Они могут спровоцировать и усилить негативное поведение. Лучше вести себя в разговоре с подростком спокойно, дружелюбно, но с убедительной силой. Улыбайтесь, можете попробовать молчать – это обескураживает и способствует прекращению конфликта. Ведь для того чтобы он набирал силу, нужны две активно участвующие стороны.

Большое заблуждение думать, что, вступая в конфликт, вы сможете что-то доказать. Фраза «в ссоре рождается истина» совсем неверна. Во время ссоры или конфликта невозможно что-либо доказать



и донести. А все потому, что отрицательное эмоциональное воздействие (крик, слезы, размахивание руками и т.п.) блокирует нашу способность анализировать, принимать и понимать услышанное. Хотите что-то сказать ребенку, сделайте это спокойно.

Не ждите мгновенного результата. То, что вы изменили тактику поведения, стали более спокойными, дружелюбными, внимательными, не означает, что ваш ребенок бросится к вам на шею с искренними извинениями. Совсем нет. Для подростка (ребенка) это что-то новое, к чему нужно привыкнуть. Ему нужно выработать новые способы поведения, а пока он может продолжать хамить, дерзить, провоцировать вас, но сила этого поведения неумолимо будет уменьшаться. Просто помните, что нужно подождать!

Чтобы влияние агрессии или отрицательных эмоций не наносило вам ощутимого вреда и дискомфорта, следует знать, что обычно они направлены на наш слух. Поэтому в ситуациях напряженного разговора, конфликта с кем-либо фиксируйте свое внимание не на слуховых ощущениях, а на зрительном восприятии. Например, вы можете очень внимательно начать рассматривать лицо вашего собеседника, запоминая каждую черту, или обратить внимание на вещи и детали, которые в данную минуту вас окружают. Суть в том, что чем больше деталей вы сможете увидеть, тем больше вы овладеете своим вниманием и состоянием, а значит и сложившейся ситуацией.

Желаю вам спокойствия и еще раз спокойствия!

# Падсвільскія вернікі: "З новым ксяндзом

## Пра гісторыю парафіі ў Падсвіллі (Глыбоцкі дэканат)

**Пасля святой Імшы, якую кс. Віталь Бяленік 3 сакавіка адслужыў у якасці пробашча ў Падсвіллі, да супрацоўнікаў "Каталіцкага Весніка" звярнулася Ядвіга Мацюшонак: "Трэба напісаць пра наш касцёл. А то пра іншыя пішаце, а пра наш ні разу не пісалі".**

**Зміцер Лупач**



Так выглядаў стары касцёл у Падсвіллі.



Святую Імшу адпраўляе кс. Люцыян Паўлік. 1994 год. *Фота з архіва Ядвігі Мацюшонак*

Падчас свайго расповеду спадарыня Ядзя расказала столькі, што гэтага магло б хапіць на цэлую кнігу. Таму ў газету яе аповяд трапляе ў скарочаным выглядзе. А пра кнігу парафіі з Падсвілля варта падумаць.

### Пабудаваны ў 1930-м годзе

Падсвілле з'явілася на мапах адносна нядаўна, калі параўноўваць з іншымі, больш старымі паселішчамі нашага краю: у 1906 годзе была пабудаваная станцыя "Падсвілле" на Балагое-Сядлецкай чыгунцы. Пасля Рыжскай мірнай дамовы ў 1921 годзе недалёка адсюль прайшла мяжа паміж Савецкай Расіяй і Польшчай. Таму ў 1925 годзе за два кіламетры ад станцыі, на беразе возера Алоізберг, быў узведзены комплекс будынкаў 7 батальёна Корпуса Аховы Памежжа "Падсвілле".

У 1930 годзе батальён памежнікаў, зважаючы на рэлігійныя патрэбы вайскоўцаў, а таксама і мясцовага насельніцтва, пачаў будаўніцтва касцёла на зямлі, якую ахвяравала пані Маркевіч, уладальніца маёнтка Алоізберг. Будоўля вялася за сродкі батальёна, а таксама на ахвяраванні мясцовага насельніцтва, у тым ліку буйных землеўладальнікаў. Будынак храма быў драўляны, меў ён даволі вялікія памеры.

Касцёл асвяцілі 2 лютага 1932 года. Напачатку ў святыні служыў святар з суседняй Бабруйшчыны. У 1938 годзе ў Падсвілле ўпершыню прызначылі ксяндза Баляслава Сладзінскага, аднак асобная парафія тут так і не ўтварылася.

### Трэба будаваць касцёл!

Адраджэнне парафіі пачалося на пачатку 90-х гадоў XX стагоддзя. Звязана яно з асобай легендарнага ксяндза Люцыяна Паўліка, які служыў у Задарожжы.

– Перад святам Божага Нараджэння ксёндз Люцыян прывёз аплаткі да мяне дамоў, каб я іх раздала, – распавядае Ядвіга Мацюшонак. – Парафіянаў тут тады мала было, у асноўным людзі старэйшыя. Прывёз ён гэтыя аплаткі, і я пачала раздаваць. А потым знайшліся такія шчырыя вернікі, якія сказалі, што будзем ставіць крыж.

Крыж паставілі ў парку, гэта і было пачаткам адраджэння парафіі ў Падсвіллі. Ксёндз Люцыян асвяціў крыж і адслужыў каля яго святую Імшу. Адбылося гэта 1 мая 1994 года. Гэта было першае адкрытае набажэнства ў Падсвіллі пасля доўгіх гадоў бязвер'я.

Пасля па ініцыятыве ксяндза Люцыяна вернікі сталі збірацца каля гэтага крыжа на маёвае набажэнства. "Памятаю, як старэнькія бабулькі станавіліся каленямі на зямлю, шчыра так маліліся, як даўней было прынята," – успамінае спадарыня Ядзя і працягвае:

– Праваслаўнага храма ў той час у Падсвіллі таксама не было, таму праваслаўным далі пакой для малітвы ў дзіцячым садку. І мне прыйшла думка, што як гэта, праваслаўным далі, а нам не?! Я загітавала гэтых бабак, і яны пайшлі ў сельсавет да нашага кіраўніка і сталі прасіць яго, каб і нам далі які пакой. Бо тады ў садку адзін будынак зачынілі, і там былі пустыя памяшканні.

І вернікам з Падсвілля выдзелілі тады вялікі пакой. Першая Імша ў ім адбылася на Божае Нараджэнне ў 1994 годзе. Набажэнствы сталі рэгулярнымі, і з кожнай Імшой тут збіралася ўсё больш вернікаў. Ксёндз Люцыян нават лаўкі замовіў для гэтага памяшкання, яны і зараз знаходзяцца ў новым храме.

Але так працягвалася нядоўга, бо садку спатрэбіўся гэты пакой. І вернікаў папрасілі яго пакінуць. А замест яго далі іншы, які быў меншы. Было ў ім вельмі цесна, нават Камунію прыняць стала вельмі праблематычна.

– Тады ксёндз Люцыян мне кажа: "Ядзя, трэба будаваць касцёл". Ён ведаў, што я змагу гэта арганізаваць. Я тады працавала ў будаўнічай арганізацыі дыспетчарам, а мой муж – начальнікам. У мяне былі тады магчымасці, усё ў руках было.

А ў нас на гэтым месцы, дзе зараз капліца, стаяла крама гаспадарчая, якая ўжо не працавала. Будынак пуставаў. Я пайшла да кіраўніцтва гандлёвай арганізацыі і папрасіла начальніцу Таісію Гужонак, каб нас туды пусцілі. А яна мне кажа: "Купляйце!"

Я адразу званю кс. Люцыяну і кажу яму: прадаецца будынак крамы, што будзем рабіць? Ён мне адказвае: "Чакай, хутка прыеду!" Вось ён прыехаў, паглядзеў і сказаў, што будзем купляць.

### Люцыян не даваў нам прадыху

Вернікам назвалі цану – трыццаць мільёнаў на тыя грошы. Людзі пачалі збіраць сродкі. Калі яны былі амаль сабраныя, кошт будынка падняўся да трыццаці пяці. Нягледзячы на гэта, будынак крамы мы купілі. Як сцвярджае Ядвіга Мацюшонак, асноўную частку грошай ксёндз Люцыян даў са сваіх зберажэнняў.

– І вось набылі мы будынак, кс. Люцыян даў нам каляровае шкло, якое і зараз у гэтай капліцы. Перарабілі мы вокны. Людзі вельмі нам дапамагалі. Не толькі з Падсвілля, але і з Галубічаў, іншых навакольных вёсак. Шмат хто прыязджаў у пяць гадзін раніцы, да працы, каб дапамагчы.

А як сцены абшывалі! Прыехала людзей шмат на конях. Тады людзей багата яшчэ ў вёсках было! Вось хочацца ўспомніць і Антона Сабыніча, і Франака Бельскага з Галубічаў, і шмат каго яшчэ. Цікава было, будавалі, усе дапамагалі. Люцыян не даваў нам прадыху ніякага. Зранку звоніць – і давай наперад.

І вось дабудавалі мы капліцу. Колькі было людзей, колькі было радасці!

### Вельмі доўга выбіралі месца

У гэтай капліцы падсвільскія парафіяне маліліся паўтара дзясятка гадоў, аж пакуль не пабудавалі новы храм. Вось што распавяла нам Ядвіга Мацюшонак пра гэта будаўніцтва:

⇨

# усё ў нас будзе добра!”

## распавядае парафіянка Ядвіга Мацюшонак

– Аднойчы ксёндз Люцыян кажа, што трэба будаваць новы касцёл. Тут якраз хатка побач прадавалася, і ён яе купіў на плябанію. А каб пачаць будоўлю, трэба спачатку было зарэгістраваць парафію.

Вось ксёндз і кажа мне, каб я збірала жанчын, і мы ехалі да кардынала. Кардынал Казімір Свёнтэк прыязджаў тады ў Мёры, і мы туды паехалі. Калі ён выходзіў з касцёла і падыходзіў да машыны, мы ўсе ўкленчылі, сталі плакаць і прасіць, каб нам дапамаглі зарэгістраваць парафію. Ён нас паблаславіў, узяў папку і сказаў, каб чакалі адказу. І гэты адказ хутка прыйшоў – наша парафія стала зарэгістраваная.

Пасля паўстала пытанне пра месца, дзе будаваць храм. Столькі мы з кс. Паўлікам адхадзілі ў райвыканкам!..

На самым пачатку хацелі будаваць касцёл на старых падмурках. Але побач людзі набудавалі ўжо гаражоў. Нам тады ўпаўнаважаная па справах рэлігій Таццяна Савуліч і кажа: які ў вас будзе тут касцёл, калі людзі вас клясці будуць? Трэба ж людзей прымусіць прыбраць гэтыя гаражы. А там іх больш за дваццаць. Таму будаваць на старым месцы не выпадала.

Далі нам спачатку ўчастак на скрыжаванні, на ўездзе ў пасёлак. Там яшчэ стары будынак польскі стаяў, яго трэба знесці было. Знеслі. Але той участак не падабаўся кс. Люцыяну, і мы вырашылі, што там будаваць не будзем.

Потым далі нам участак, дзе будынак сельсавета раней быў. Зноў мы прыбралі гэты стары будынак, каб на яго месцы будаваць касцёл. Але і той участак не падабаўся ксяндзу Люцыяну: з двух бакоў дарогі, месца нізкае. А пабудаваць побач з плябаніяй не выпадала, бо надзел малы.

І тут так здарылася, што ў суседняй хаце памірае чалавек. Мы таксама гэту хату купілі. І хуценька за адну ноч яе прыбралі.

Ксёндз Люцыян тады ўжо стары быў, ведаў, што не шмат яму жыць засталося. Таму ганяў мяне: давай хутчэй будзем пачынаць будаваць. Ён на гэту справу шмат сваіх грошай ахвяраваў, сам еў толькі кашу рысавую, быў непатрабавальны да ежы.

Пачалі мы будаваць касцёл без праекту. Вядома, парушэнне. Але ў Віцебску праект рабілі, а мы падмурак заліваць ужо пачалі.

### Як ксёндз Чэслаў перасунуў падмурак

– Ксёндз Люцыян хацеў крыху зрушыць падмурак касцёла адносна таго месца, дзе ён стаіць цяпер. А ксёндз Чэслаў Курэчка, які ў той час працаваў у нас, быў супраць гэтага.

І вось прыехаў ксёндз Люцыян, сеў на крэсла, загнаў калочак – тут трэба, каб быў вугал касцёла. А ксёндз Чэслаў мне кажа: “Ядзя, займі чым ксяндза Люцыяна”. Я яго заняла нейкай размовай, а ксёндз Чэслаў тым часам на два метры калочак аднёс. Кс. Люцыян гэта не заўважыў, так касцёл наш і стаіць цяпер.

### Пры ім у нас жыццё кіпела

Наогул парафіяне вельмі цёпла ўспамінаюць тыя часы, калі кс. Чэслаў Курэчка працаваў у Падсвіллі.

– Пры ім жыццё ў нас кіпела, – згадвае спадарыня Ядзя. – Адбудзецца Імша, а ксёндз Чэслаў запрашае:”Пойдзем, дзяўчаты, кавы пап'ём”. А ў мяне мама хворая, трое ўнукаў, карова на полі, даіць трэба. Таму я хуценька давай хапаць каву гарачую. А ксёндз: “Сядзь, Ядзя, спакойна папі, на хаду каву ніхто не п'е, паразмаўляць трэба. Няма чаго спяшацца! Паспееш!”

А аднойчы мы вырасцілі да 8 Сакавіка шмат цюльпанаў. І ксёндз нас прымусіў ехаць на базар, гандляваць імі. І мы паехалі! Пазней за гэтыя грошы паставілі прыбудову цагляную да плябаніі і пліту тут зрабілі.

Ён кожную птушку ведаў, як называецца, кожную кветачку... З кожным лісточкам, бывала, паразмаўляе. Арганізатар добры быў, ніколі нам не даваў сумаваць. У яго тут планы былі, ого! Але яго перавялі ў іншае месца, дык не паспеў.

З Ядвігай Мацюшонак згодны і старшыня парафіяльнай рады Антон Чарны. Ён кажа, што, каб ксяндза Чэслава адсюль не перавялі, то, цалкам магчыма, і Падсвілле зараз выглядала б па-іншаму.

Па ініцыятыве ксяндза Чэслава быў пастаўлены камень на месцы старога касцёла. А зараз вернікі лічаць, што трэба там паставіць і крыж. “Усё ж намоленае месца, святое,” – кажа Антон Чарны.


Антон Чарны побач са сваім дызайнерскім праектам. На гэтым месцы першапачаткова планавалі будаваць храм. *Фота Змітра Лупача*

### Двойчы залівалі падмурак

Ядвіга Мацюшонак распавяла, як на пачатку будаўніцтва іх напатkала няўдача:

– Трэба заліваць падмурак. Нанялі мы нейкую брыгаду з Глыбокага для гэтай працы. Не было там ніякага прараба, нікога старэйшага, хто б адказваў за гэта. А залівалі яны падмурак па выхадных: зальюць частку, яна стаіць так да наступных выхадных. Бетон вазілі мы з Фарынава гатовы.

І вось ёсць падмурак, знайшлі мы ўжо брыгаду будаваць храм далей. Трэба ж грошы шукаць! Ксёндз Люцыян быў марыянінам, неадназова звяртаўся ён у Польшчу да кіраўніцтва свайго ордэна. І нарэшце нам дапамаглі – далі дзве тысячы еўра. Астатнія сродкі даў ксёндз Люцыян са сваіх асабістых ашчаджэнняў і нашы парафіяне. Больш нам ніхто не дапамог.

Прыязджае брыгада будаваць, прараб ключом ад аўтамабіля пакалупаў падмурак – крышыцца! Бетон няякасны аказаўся. А я ж не прараб, не будаўнік, адкуль я магла ведаць!? І ксёндз Люцыян, хоць і адказваў за гэту будоўлю, таксама ж не прафесійны будаўнік!

Тут прараб кажа, што ён не будзе храм на такім падмурку будаваць, нельга гэтага рабіць, ён стаяць не будзе, развaліцца.

Я тады так знервавалася, так расстроілася, што ж людзі скажуць? Чалавек жа дасць 5 рублёў, а спытае як за мільён, куды грошы падзела? Аднаму Богу вядома, колькі я слёз выплакала. І людзі мяне папракалі: во набудавала!

І давялося падмурак разбураць. А недзе пяць тысяч долараў на гэта ўжо было патрачана!

Ксёндз Люцыян тады мне сказаў: “Ядзя, не плач! Хрыста людзі ўкрыжавалі, а ты хочаш, каб цябе не асудзілі. Я ўсё разумею. Трэба разбураць – значыць, разбурайце!”

І мы ўвесь гэты падмурак адбойнымі малаткамі разбурылі і знеслі.

### Дзякуем за новага пробашча

Праўда, з Божай дапамогай новы храм у Падсвіллі быў пабудаваны. Будаваўся ён не так хутка, як хацелася б. Не хапала фінансавых сродкаў, у парафіі часта мяняліся святары. Тым не менш у 2010 годзе вернікі перайшлі на малітву ў новую святыню. А ў 2011 годзе адбылося яе асвячэнне. Урачысты абрад правёў біскуп Уладзіслаў Блін. Пробашчам тут у той час быў кс. Андрэй Кулік. Пры ім і была завершаная доўгая справа пабудовы святыні ў Падсвіллі.

– Вось толькі цэгла наша беларуская аказалася няякаснай, стала сыпацца, – кажа спадарыня Ядвіга, – і вежу ўжо давялося рамантаваць.

Далей яна дадае:

– Але мы за ўсё ўдзячныя Богу. А яшчэ перадайце праз газету вялікую падзяку біскупу Алегу і ксяндзудэкану Мікалаю за нашага новага пробашча ксяндза Віталя. Мы адразу пабачылі, што ў нас будзе добры пробашч. Па ўсім відаць. Таму вельмі дзякуем і спадзяёмся, што з новым святаром у нас будзе ўсё добра!

Можна яшчэ шмат што распавесці пра гісторыю і жыццё Падсвільскай парафіі. Як ужо было сказана вышэй, пра гэта можна напісаць цэлую кнігу. Спадзяёмся, што так і атрымаецца!

***

*Аўтар выказвае падзяку* ***Ядвізе Мацюшонак*** *за цікавы расповяд, а таксама* ***Касцусю Шыталю*** *за дапамогу ў напісанні гістарычнай часткі. Больш здымкаў глядзіце на сайце* ***Catholicnews.by***


Так выглядае месца, дзе стаяў стары касцёл. *Фота Змітра Лупача*

# Вялікая Серада: Імша Хрызма ў Віцебскай катэдры

**17 красавіка духавенства і кансэкраваныя асобы Віцебскай дыяцэзіі сабраліся ў катэдральным касцёле Езуса Міласэрнага ў Віцебску на святую Імшу, падчас якой біскуп Алег Буткевіч блаславіў алеі хворых, катэхуменаў і Хрызма.**

■ **Марына Сінкевіч,** *тэкст і фота*

На самым пачатку іерарх прывітаў прысутных святароў, а асаблівым чынам кс. прадата Аляксандра Рагіню, сакратара Апостальскай нунцыятуры ў Аргенціне, генеральнага вікарыя кс. пралата Францішка Кіселя, айца архімандрыта Сяргея Гаека і прадстаўнікоў грэка-каталіцкай царквы.

У сваёй гаміліі віцебскі ардынарый звярнуў увагу на значэнне дару святарства. Біскуп Алег узгадаў цытату польскага арцыбіскупа Рыся: "Можна рабіць справы Бога, а можна рабіць справы для Бога" і пракаментаваў: "Мы, святары, не павінны імкнуцца рабіць нешта для Бога. Ён нічога не патрабуе. Але мы павінны рабіць справы Божыя, каб служыць Касцёлу, з якога вышлі і да якога пастаўлены, служыць яму па-Божаму. Так як казаў Езус: "Калі Я не раблю справы Айца Майго – не верце Мне. Аднак, калі раблю і не верыце мне – паверце справам Маім". Гэта аргумент, які сёння адзіны здольны прамовіць праз нашу паслугу, калі тое, што робім, будзем рабіць па-Божаму. Гэтага таксама чакае ад нас Езус, каб мы служылі не столькі Яму, колькі ў Ім і разам з Ім".

Падчас Імшы адбылося бласлаўленне алеяў, якія ўжываюцца для ўдзялення сакрамантаў хросту, бежмавання, святарскага пасвячэння і намашчэння хворых.

У гэты дзень святары аднавілі сваё абяцанне вернасці святарскаму служэнню. Адбыўся ўрачысты дыялог духавенства са сваім біскупам, які запытаўся ў прысутных, ці гатовыя яны ісці следам за Хрыстом і адказна выконваць сваю пастырскую місію.

Пасля пацвярджэння святарамі сваіх прысягаў напрыканцы Імшы с. Надзея Рачыцкая ад імя прысутных павіншавала пастыра дыяцэзіі з Днём устанаўлення сакрамента святарства.





## Біскуп Юзаф Станеўскі адзначыў сваё пяцідзесяцігоддзе

**4 красавіка свой залаты юбілей адзначыў дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі.**

50 гадоў таму, у вечар Вялікай пятніцы, у сям'і Рамуальда і Гелены Станеўскіх прыйшло ў свет чацвёртае дзіця. Падчас святога хросту, які адбыўся 13 мая 1969 года ў парафіяльным касцёле Найсвяцейшага Сэрца Пана Езуса і св. Язафата ў Заневічах, хлопчык атрымаў імя вялікага апекуна – св. Юзафа, Абранніка Найсвяцейшай Панны Марыі.

Менавіта ў сваёй роднай мясцовасці недалёка ад Гродна будучы іерарх адкрываў тую вялікую місію, якую яму падрыхтаваў Хрыстус Пан, і дарастаў да яе. Сямейны дом і атмасфера, што была ў ім створана дзякуючы клапатлівым і высакародным бацькам, як адзначаў ён у дзень сваёй біскупскай сакры (1 лютага 2014 года), сталі першай семінарыяй. А тое, што ён тады зразумеў і чаму навучыўся, стала чалавечым падмуркам яго пазнейшага святарскага, а цяпер і біскупскага жыцця.

Юбілей – гэта цудоўная нагода для самога іерарха, каб паглядзець на сваю ролю ў справе збаўлення, на свае дасягненні, здзейсненыя да гэтага часу, на служэнне ў Касцёле на Гродзеншчыне ў якасці пастыра і ў ва ўсёй Беларусі ў якасці Генеральнага сакратара Канферэнцыі Біскупаў і адказнага за душпастырства моладзі. Юбілей – гэта яшчэ і нагода, каб зазірнуць у будучыню.

А для нас усіх – духоўных асобаў і вернікаў – гэта добрая падстава падзякаваць Богу за дар асобы біскупа Юзафа для нашага Касцёла! Таксама гэта заахвочванне да больш частай і больш руплівай малітвы ў інтэнцыі шаноўнага юбіляра.

Як прыгожа глядзець на людзей, каторыя могуць уступаць у гэты сталы перыяд свайго жыцця, дадзены Панам, з усмешкай, радасцю і са сцвярджэннем, што варта было слухаць Хрыста, рэалізаваць сваю місію ў Касцёле, знайсці сваё месца і быць таксама радасцю гэтага свету. Біскуп Юзаф заўсёды з надзеяй, аптымізмам і ўсмешкай на твары крочыць праз жыццё!

***Паводле grodnensis.by***

**Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка" таксама віншуе юбіляра і жадае біскупу Юзафу моцы ў яго служэнні і сапраўднай хрысціянскай радасці! Хай святы Юзаф і надалей дапамагае ў яго жыцці!**

# Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае "Каталіцкі Веснік" сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

**Свае ахвяраванні нам даслалі: Марыя Мурзіч** *(Мосар),* **Станіслава Носка** *(Мосар),* **Станіслава Жук** *(Мосар),* **Зоф'я Ласоўская** *(Радзюкі),* **Рэгіна Бука** *(Радзюкі),* **Вераніка Курыловіч** *(Мосар),* **Ларыса Фёдарава** *(Глыбокае),* **Ірэна Сіманенкава** *(Мосар),* **Часлава Яцына** *(Шаркаўшчына),* **Алена Кукліна** *(Баравуха),* **Яна Кукліна** *(Баравуха),* **Марыя Ткачонак** *(Мосар),* **Зоф'я Скакоўская** *(Мосар),* **Уладзіслава Бохан** *(Мосар),* **Эльжбета Калмук** *(Радзюкі),* **Аліна Бука** *(Мосар),* **Даната Алейнік** *(Мосар),* **Цалко В.В.** *(Шыркі),* **Яніна Шэнда** *(Зорка),* **Яніна Лубінская** *(Шэметава),* **Віталь Леановіч** *(Віцебск),* **Зенона Альксрін** *(Браслаў),* **Дарашкевіч А.** *(Янкавічы),* **Леанід Асоцкі** *(Сіцькова),* **Вольга Казлоўская** *(Дзісна),* **Даната Варанько** *(Друя),* **Стэфанія Якавіцкая** *(Паставы),* **Тэрэза Варановіч** *(Докшыцы),* **Казіміра Сіндрэвіч** *(Падсвілле),* **Альфрэда Гарбунова** *(Дзісна),* **Лія Мацюшонак** *(Прошкава),* **Даната Кміта** *(Прошкава),* **Тэрэса Лешчык** *(Сарокі),* **Соф'я Рагіня** *(Сарокі),* **Валянціна Рыбак** *(Гомель),* **Ганна Гінько** *(Глыбокае),* **Часлава Лаўрыновіч** *(Мосар),* **Марына Ткачонак** *(Мосар),* **Даната Далецкая** *(Слабодка),* **Галіна Качаноўская** *(Слабодка),* **Валянціна Лучэна** *(Слабодка),* **Стэфанія Глод** *(Слабодка),* **Лізавета Барткевіч** *(Слабодка),* **Рэгіна Савіцкая (Гаўрылаўцы), Ядвіга Барткевіч** *(Гаўрылаўцы),* **Алена Бурая** *(Гаўрылаўцы),* **Юзэфа Мількевіч** *(Веркаўшчына),* **Феакцістава Л.М.** *(Камарова),* **Мурзенак В.М.** *(Паставы),* **Эма Козел** *(Докшыцы),* **Яўгенія Паўлава** *(Віцебск),* **Браніслава Юран** *(Браслаў),* **Галіна Галуза** *(Падсвілле),* **Вацлава Скрага** *(Падсвілле),* **Соф'я Машара** *(Шаркаўшчына),* **Людміла Буткевіч** *(Крапіўнікі),* **Вольга Мятла** *(Сталіца),* **Эма Сцяпанава** *(Сталіца),* **Леакадзія Лаўнюжэнка** *(Новыя Габы),* **Святлана Буткевіч** *(Крапіўнікі),* **Канстанцін Кузьміч** *(Варапаева),* **Камілія Емельянава** *(Дунілавічы),* **Яніна Шэнда** *(Зорка),* **Яніна Дулінец** *(Савуткі),* **Казіміра Сіндрэвіч** *(Падсвілле),* **Рэгіна Ракуцкая** *(Браслаў),* **Валянціна Хаданёнак** *(Сталіца),* **Леанід Грыбач** *(Гомель),* **Часлава Гулевіч** *(Маладзечна),* **Генадзь Маркоўскі** *(Маладзечна),* **Людміла Кароцік** *(Параф'янава),* **Галіна Мізей** *(Вілейка),* **Ванда Кавалеўская** *(Лявонпаль),* **Ганна Старычонак** *(Бярозкі),* **Соф'я Чырвінская** *(Язні),* **Данута Вянсковіч (Гродна), Вольга Парневіч (Крулеўшчына), Алена Сасімовіч** *(Глыбокае),* **Кавалёнак С.С.** *(Прусы),* **Даната Пачкоўская** *(Савуткі),* **Бенедзікта Баранава** *(Дворпліна),* **Ганна Кірплюк** *(Варапаева),* **Эмілія Стакло** *(Юльянова),* **Алімпія Цішко** *(Старыя Габы),* **Станіслаў Вышадка** *(Завараты),* **Вільгельм Драгун** *(Варапаева),* **Дарашкевіч А.Я.** *(Янковічы),* **Аліна Бервячонак** *(Прусы),* **Вераніка Абуховіч** *(Дунілавічы),* **Леакадзія Пазняк** *(Прусы).*

Калі Вы хочаце дапамагчы "Каталіцкаму Весніку" сваімі ахвяраваннямі, дасылайце, калі ласка, іх праз Белпошту на ніжэйпададзены адрас:

***Місевіч Віктар Мар'янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793 г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

***Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"***

# Маёўка для моладзі

## 1 мая, Глыбокае

**Дарагая моладзь!**

Вучні школаў, прафесійных установаў, студэнты ВНУ і працуючыя маладыя людзі, запрашаем вас 1 мая на "МАЁЎКУ", якая адбудзецца ў Глыбокім (парафія св. Тройцы).

У праграме: св. Імша, канферэнцыя, гульні і пачастунак на паветры.

Пачатак 11.00

Заканчэнне 17.00

Просім паведаміць аб прысутнасці да 28.04.2019 па тэл. **+375295664833** кс. Алег альбо e-mail: ***ddm.vicebsk@gmail.com***

**План мерапрыемства**

**11.00** – Святая Імша
**12.00** – Канферэнцыя
**12.30** – Забаўляльная праграма на паветры
**17.00** – Заканчэнэ




# Гісторыю жыцця кардынала Свёнтка ўвасобілі ў торце

**8 красавіка ў парафіі св. Андрэя, апостала, у Нарачы (Мядзельскі дэканат) незвычайна адсвяткавалі 80-годдзе святарства Казіміра Свёнтка, увасобіўшы гісторыю жыцця першага і адзінага ў сучаснай гісторыі Беларусі кардынала ў... торце.**

■ **Мікола Гракаў**, *тэкст;* **Яна Жалубоўская**, *фота*
*Catholic.by*

Сваю акцыю нарачанскія вернікі назвалі "кулінарны флэшмоб". Майстар па вырабе тортаў з Нарачы Марыя Галяк стварыла сапраўдны салодкі шэдэўр, у якім былі ўвасобленыя асноўныя моманты святарскага жыцця кардынала Казіміра Свёнтка, а таксама адлюстравана яго багатая асоба.

У гэты дзень у касцёле св. Андрэя, апостала, у Нарачы таксама адбылася св. Імша пра вечнае жыццё для святой памяці Казіміра Свёнтка, цэлебрацыю якой узначаліў пробашч мясцовай парафіі а. Бэрнард Радзік OCD. Перад Эўхарыстыяй парафіяльная моладзь правяла Крыжовы шлях на тэму "Мяне ўратавала моцная, непахісная вера ў Бога".

Разважанні падчас набажэнства, дэвізам якога сталі словы самога айца Казіміра, распавядалі пра найбольш драматычныя моманты яго жыцця; пра шматлікія выпрабаванні, якія не знішчылі ў ім любові, дабрыні і замілавання прыгажосцю навакольнага свету.

Пасля Крыжовага шляху і св. Імшы ўсе прысутныя з задавальненнем пакаштавалі кулінарны шэдэўр нарачанскай гаспадыні і такім чынам разам адзначылі юбілей святарства кардынала Казіміра, які для нарачанцаў, як і для ўсіх вернікаў нашай краіны з'яўляецца прыкладам сапраўднага святара, вернага і адданага Богу.






# Ці добра вы ведаеце манаскія ордэны?

**Мы сустракаем іх на вуліцах нашых гарадоў, яны служаць у нашых парафіях, нясуць розныя формы служэння – кожны паводле свайго харызмату.**

**Новы тэст "Каталіцкага Весніка" прапануе праверыць, ці добра вы ведаеце каталіцкія манаскія ордэны.**

**1** Да якой манаскай супольнасці належаць браты?



**А.** Таварыства св. Фрацішка Сальскага (Салезіяне)
**Б.** Ордэн Меншых Братоў Капуцынаў (Капуцыны)
**В.** Таварыства Каталіцкага Апостальства (Палатыны)

**2** Да якога жаночага ордэну належаць сёстры?



**А.** Сёстры Міласэрнасці св. Вінцэнта дэ Поля (Шарыткі)
**Б.** Сёстры Адаратаркі Крыві Хрыста
**В.** Кангрэгацыя Сясцёр св. Дамініка (Дамініканкі)

**3** Да якога ордэну належаць наступныя манахі?



**А.** Супольнасць Божага Слова (Вербісты)
**Б.** Таварыства каталіцкага апостальства (Палатыны)
**В.** Ордэн Прапаведнікаў (Дамінікане)

**4** Да якога жаночага ордэну належаць сёстры?



**А.** Кангрэгацыя Сясцёр ад Анёлаў (Анелянкі)
**Б.** Кангрэгацыя Сясцёр Місіянерак Любові
**В.** Сёстры Служабніцы Езуса ў Эўхарыстыі (Эўхарысткі)

**5** Да якой законнай супольнасці належаць наступныя айцы?



**А.** Ордэн братоў Найсвяцейшай Панны Марыі з гары Кармель (Кармеліты)
**Б.** Супольнасць Місіянераў Аблатаў Марыі Беззаганнай (Аблаты)
**В.** Таварыства Езуса (Езуіты)

**6** Да якога жаночага ордэну належаць сёстры?



**А.** Сёстры Францішканкі Сям'і Марыі
**Б.** Сёстры Змёртвыхпаўстанкі
**В.** Супольнасць Дачок Маці Божай Балеснай (Серафіткі)

**7** Да якога законнага Таварыства належаць наступныя святары?



**А.** Ордэн Братоў Меншых Канвентуальных (Францішкане)
**Б.** Закон Св. Паўла – першага пустэльніка (Паўліны)
**В.** Таварыства Боскага Збаўцы (Сальватарыяне)

**8** Да якога жаночага ордэну належаць сёстры?



**А.** Сёстры Францішканкі Сям'і Марыі
**Б.** Сёстры Маці Божай Міласэрнасці
**В.** Сёстры Місіянеркі Святой Сям'і

*Падрыхтавала*
***Вікторыя Колзун***

**Правільныя адказы на старонцы 13**

# Каляндар на май

**Май у Каталіцкім Касцёле асаблівым чынам прысвечаны ўшанаванню Найсвяцейшай Панны Марыі праз так званыя “маёвыя набажэнствы”.**



Цэнтральнаю часткаю маёвага набажэнства з’яўляецца Ларэтанская Літанія – адзін з найпрыгажэйшых гімнаў на ўшанаванне Найсвяцейшай Панны Марыі. У ім Касцёл праслаўляе вялікія цноты і прывілеі, якімі Бог адарыў сваю верную Слугу. Літанія ўзнікла ў XII ст., хутчэй за ўсё, у Францыі, і была афіцыйна зацверджаная Папам Сікстам V. Назва “Ларэтанская” паходзіць ад італьянскага мястэчка Ларэта, дзе знаходзіцца адна з найвялікшых марыйных святыняў – домік з Назарэта, у якім Марыі з’явіўся Анёл Габрыэль. Менавіта там літанія набыла вялікую папулярнасць у вернікаў. Заахвочваем вас, шаноўныя чытачы, да актыўнага ўдзелу ў майскіх набажэнствах, прысвечаных Божай Маці.

**3 мая – Дзень святых Філіпа і Якуба, апосталаў.**



У пераліку апосталаў Філіп з’яўляецца пятым. Ён быў вучнем святога Яна Хрысціцеля і паходзіў з Бэтсаіды, што на Генісарэцкім возеры, дзе працаваў рыбаком. Там яго сустрэў Езус і паклікаў у супольнасць дванаццаці апосталаў. Пасля ўваскрасення Хрыста Філіп спачатку вёў місіянерскую дзейнасць у сябе на радзіме, а пазней накіраваўся ў Фрыгію (Малая Азія), дзе навярнуў і ахрысціў шмат паганцаў. Там каля 80 г. ва ўзросце 87 гадоў апостал прыняў мучаніцкую смерць: быў прыбіты да крыжа і закіданы камянямі.

Якуб Меншы (Малодшы) быў сынам Клеафаса і Марыі, сястры Найсвяцейшай Панны Марыі. Розныя крыніцы называюць яго таксама першым біскупам Ерусаліма. У 62 г. першасвятар Анна асудзіў Якуба на смерць, і апостала скінулі са сценаў святыні, пасля чаго яго дабіў нейкі гарбар. Рэліквіі абодвух святых спачываюць у Рыме, у базыліцы Дванаццаці Апосталаў. Святыя Філіп і Якуб лічацца апекунамі капялюшнікаў, крамнікаў, гарбароў.

**13 мая – успамін Найсвяцейшай Панны Марыі Фацімскай.**

У 1917 годзе ў невялікай вёсцы Фаціма, якая знаходзіцца ў гарах Партугаліі, тром пастушкам – Францыску Марто, Жасінцы Марто і Луцыі Душ Сантуш – абʼявілася прыгожая Панна, “Якая зззяла ярчэй за сонца”. Гэта была Найсвяцейшая Панна Марыя. Багародзіца абʼяўлялася дзецям кожны трынаццаты дзень месяца да кастрычніка таго ж года і падчас кожнага абʼяўлення прадказвала гісторыю чалавецтва ў XX стагоддзі, у прыватнасці, пераслед Касцёла і яго адраджэнне.

**14 мая – Дзень святога Мацвея, апостала.**



Да паклікання ў супольнасць апосталаў Мацвей быў мытнікам у Капернауме, горадзе, які знаходзіўся на заходнім беразе Генісарэцкага возера. Ён меў таксама і другое імя – Левій. Згодна з традыцыяй, пасля ўнебаўшэсця Хрыста Мацвей каля 42 г. пакінуў Палесціну і накіраваўся абвяшчаць Евангелле ў Егіпце і Эфіопіі. Там ім былі здзейсненыя шматлікія аздараўленні. Не захавалася звестак пра тое, дзе і пры якіх абставінах загінуў апостал, але ўжо першыя хрысціяне ўшаноўвалі яго як мучаніка. Святы Мацвей з’яўляецца апекуном мытнікаў і банкіраў, а таксама ратуе ад алкагалізму.

**16 мая – успамін св. Андрэя Баболі – апекуна Пінскай дыяцэзіі.**



Святога пакутніка за яго місіянерскую дзейнасць называюць “Апосталам Палесся” і “Пінскім апосталам”. Святы Андрэй Баболя нарадзіўся ў 1591 годзе, а ў 1611-ым уступіў у Таварыства Езуса (езуітаў). Пасля навучання ў Віленскай езуіцкай акадэміі і святарскага пасвячэння быў накіраваны на душпастырскую працу. З 1636 года працаваў сярод уніятаў, узмацняючы іх у каталіцкай веры. Схоплены праваслаўнымі казакамі, ён быў жорстка закатаваны ў Янаве Палескім (сёння Іванава) 16 мая 1657 г.

**30 мая – урачыстасць Унебаўшэсця Пана.**



Пасля свайго ўваскрасення Езус Хрыстус з’яўляўся сваім вучням, а праз 40 дзён на іх вачах узнёсся на неба з Аліўнай гары. Азначэнне “Унебаўшэсце Пана” паходзіць з апісання, пераказанага св. Лукой у “Дзеях Святых Апосталаў” (Дз 1, 9-11). Урачыстасць Унебаўшэсця Хрыста ранні Касцёл злучаў з таямніцай Спаслання Святога Духа на Апосталаў. Гісторыя літургіі ведаеназваную ўрачыстасць з IV ст. Гэта вялікае хрысціянскае свята, таму Касцёл заклікае ўсіх вернікаў устрымацца ад выканання цяжкай працы.

**31 мая – свята Адведзінаў Найсвяцейшай Панны Марыі.**



Святкаванне Адведзінаў Найсвяцейшай Панны Марыі мае сярэднявечнае паходжанне. Свята адзначалася францішканскім ордэнам яшчэ да 1263 года, калі яно было прапанавана св. Бонавентурам. Дзякуючы ўплыву з боку францішканскага ордэна свята распаўсюджвалася, але афіцыйна зацверджана Касцёлам было толькі ў 1389 годзе па загадзе Папы Урбана VI.

Сустрэчу Дзевы Марыі і святой Альжбеты, якая адбылася праз некалькі дзён пасля Звеставання, апісвае ў Святым Пісанні евангеліст Лука. Найсвяцейшая Панна Марыя, даведаўшыся, што яе сваячка Альжбета ў хуткім часе павінна нарадзіць, вырушае ў шлях, у “горад Юды”. Марыя пераадольвае гэты шлях не адна, разам з ёй Бог, які знаходзіцца ва ўлонні. Гэта было першае падарожжа маленькага Езуса Хрыста. Увайшоўшы ў дом, Марыя прывітала Альжбету. Пачуўшы прывітанне, Альжбета напоўнілася Духам Святым і даведалася, што Марыя стала маці Бога. Яна гучна ўсклікнула: “Благаслаўлёная Ты між жанчынамі і блаславёны плод улоння Твайго! І адкуль мне гэта, што Маці Пана майго прыйшла да мяне?” Словы прывітання Альжбеты ўвайшлі ў склад вядомай хрысціянскай малітвы “Вітай, Марыя!”

У адказ на словы Альжбеты Марыя праславіла Бога, кажучы: “Велічае душа мая Пана, і ўзрадаваўся дух мой у Богу, маім Збаўцы. Бо ўзглянуў Бог на пакору сваёй слугі, і цяпер благаслаўляць мяне будуць усе пакаленні. Бо вялікае ўчыніў мне Усемагутны, а імя Яго святое. І міласэрнасць Яго з пакалення ў пакаленне над тымі, хто Яго баіцца. Ён паказаў моц сваёй правіцы, рассеяў тых, хто пыхлівы сэрцам. Скінуў магутных з трону і ўзвысіў пакорных. Дабром галодных насыціў, а багатых ні з чым адправіў. Прыняў свайго слугу Ізраэля, памятаючы пра сваю міласэрнасць, як абяцаў бацькам нашым, Абрагаму і яго патомству навекі” (пар. Лк. 1, 46-55).

Гэтае праслаўленне Марыяй Пана стала хрысціянскім гімнам, які вядомы пад назвай “Magnificat”, што і азначае “велічае” па першым слове Маці Божай.

*Падрыхтавала*
***Вікторыя Колзун***

## На май прыпадаюць дні нараджэння, імяніны і гадавіны святарскага пасвячэння ў наступных святароў і біскупаў:

**1** мая – дзень святарскага пасвячэння адзначаюць **кс. Леанід Мозгель** *(Павяцце)*, **кс. Андрэй Кулік** *(Дзеркаўшчына)*, **кс. Эдвард Нарадоўскі** *(Задарожжа)*;

**2** мая – дзень святарскага пасвячэння адзначае **а. Чэслаў Курэчка MIC** *(Росіца)*;

**3** мая – імяніны адзначаюць **кс. Аляксандр Амяльчэня** *(Ватыкан)*, **кс. Аляксандр Баран** *(Лынтупы)*, **кс. пралат Аляксандр Рагіня** *(Аргенціна)*, **кс. канонік Аляксандр Чайкоўскі** *(Наваполацк)*; дзень святарскага пасвячэння адзначаюць **кс. Іван Кароткін** *(Глыбокае)*, **а. Аляксандр Жарнасек MIC** *(Орша)*;

**5** мая – дзень нараджэння адзначае **бр. Максім Тамковіч OFMCap** *(Докшыцы)*;

**8** мая – імяніны адзначаюць **а. Станіслаў Скрыдалевіч SAC** *(Талачын)*, **а. Станіслаў Памыкала SJ** *(Віцебск)*; дзень святарскага пасвячэння азначае **кс. канонік Павел Кнурэк** *(Польшча)*;

**9** мая – дзень святарскага пасвячэння адзначаюць **а. Лешак Вітвіцкі SDS** *(Слабодка)*;

**12** мая – дзень святарскага пасвячэння адзначае **а. Станіслаў Скрыдалевіч SAC** *(Талачын)*;

**13** мая – дзень нараджэння адзначае **кс. Андрэй Таўрук** *(Мёры)*; дзень святарскага пасвячэння адзначаюць **біскуп Алег Буткевіч**, **кс. Марат Казлоўскі** *(Мосар)*, **кс. канонік Вячаслаў Барок** *(Віцебск)*, **кс. Ян Пугачоў** *(Германавічы)*, **кс. Уладзімір Заянчкоўскі** *(Лепель)*, **а. Вальдэмар Куява OFMConv** *(Удзела)*;

**14** мая – дзень нараджэння адзначае **кс. Мікалай Ціхановіч** *(Глыбокае)*, дзень святарскага пасвячэння адзначае **кс. Уладзімір Шымковіч** *(Дуброўна)*;

**15** мая – дзень святарскага пасвячэння адзначаюць **кс. Віктар Місевіч** *(Віцебск)*, **кс. Генадзь Рэйшаль** *(Шаркаўшчына)*, **кс. Міхаіл Татарэнка** *(Лужкі)*;

**16** мая – імяніны адзначае **кс. Андрэй Таўрук** *(Мёры)*, дзень святарскага пасвячэння адзначае **а. Андрэй Бочар MS** *(Далёкія)*;

**17** мая – дзень святарскага пасвячэння адзначае **кс. пралат Крыштаф Міекіна** *(Мёры)*;

**18** мая – дзень святарскага пасвячэння адзначае **кс. пралат Аляксандр Рагіня** *(Аргенціна)*;

**19** мая – дзень святарскага пасвячэння адзначаюць **кс. Мікалай Ціхановіч** *(Глыбокае)*, **кс. Юрый Барок** *(Расоны)*;

**20** мая – дзень святарскага пасвячэння адзначаюць **а. Андрэй Букштан OFMCap** *(Докшыцы)*, **а. Альфрэд Пяхота MS** *(Відзы)*, **а. Зэнон Шчонхар MS** *(Відзы)*;

**21** мая – дзень святарскага пасвячэння адзначае **а. Тамаш Міка OP** *(Віцебск)*;

**22** мая – дзень святарскага пасвячэння адзначаюць **а. Вадзім Прасяной SCJ** *(Паставы)*, **а. Браніслаў Дашкевіч OP** *(Віцебск)*, **а. Станіслаў Мжыглуд SDS** *(Браслаў)*;

**24** мая – дзень святарскага пасвячэння адзначае **а. Крыштаф Коц’ян OP** *(Віцебск)*;

**25** мая – дзень святарскага пасвячэння адзначае **біскуп Уладзіслаў Блін**;

**26** мая – дзень нараджэння адзначае **кс. Эдвард Нарадоўскі** *(Задарожжа)*; дзень святарскага пасвячэння адзначаюць **а. Уладзімір Шыдлоўскі SDS** *(Браслаў)*;

**28** мая – дзень святарскага пасвячэння адзначае **кс. Адам Кваткоўскі SDS** *(Браслаў)*;

**29** мая – дзень нараджэння адзначае **кс. Яцэк Хутман** *(Камаі)*; дзень святарскага пасвячэння адзначаюць **а. Андрэй Вашчук SDS** *(Віцебск)*, **а. Яраслаў Банасяк OFMConv** *(Удзела)*, **а. Юрый Вільк SCJ** *(Варапаева)*;

**30** мая – дзень нараджэння адзначае **кс. Аляксандр Баран** *(Лынтупы)*; дзень святарскага пасвячэння адзначаюць **кс. Адам Дынак** *(Пінск)*, **а. Міхаіл Ермашкевіч OP** *(Сянно)*;

**31** мая – дзень нараджэння адзначаюць **біскуп Уладзіслаў Блін**, **кс. Адам Дынак** *(Пінск)*; дзень святарскага пасвячэння адзначаюць **а. Андрэй Юхневіч OMI** *(Шуміліна)*, **а. Пётр Ясевіч OFMCap** *(Ваўкалата)*, **кс. пралат Францішак Кісель** *(Полацк)*, **кс. Аляксей Ляшко** *(Віцебск)*.

*Падрыхтаваў*
***Зміцер Лупач***

# Кольцо рыбака – это действительно кольцо Святого Петра?

**В детстве, я помню, отец говорил мне, что Кольцо рыбака, которое носит Папа Римский, называется так, потому что его носил Святой Петр. Действительно ли кольцо, которое носит Папа Римский, принадлежало апостолу Петру? Или каждому следующему Папе дается новое кольцо?**

■ **о. Эдвард МакНамара**, *профессор, декан факультета теологии университета Regina Apostolorum. Перевод рускатолик.рф*



По утверждению Рима, кроме нескольких костей апостола Петра, до наших дней сохранились только отдельные вещи, которые могли принадлежать первому Папе Римскому. Например, в апсиде собора Святого Петра сохранился стул апостола, который является частью скульптурной композиции кафедры Святого Петра, созданной Джованни Бернини. Кроме этого, в церкви Сан-Пьетро-ин-Винколи хранятся оковы, которыми он был скован во время заключения в тюрьме. А подлинное здание Мамертинской тюрьмы, в которой был заточен Святой Петр, сейчас является церковью.

Часть стола, за которым Святой Петр, вероятно, служил Евхаристию, была найдена в боковом притворе церкви св. Пуденцианы, одной из самых древних христианских церквей в Риме (построена на месте домашней церкви между 140 и 155 гг. н.э.). Остальная часть стола находится в алтаре Св. Иоанна Крестителя в соборе Святого Петра. Тем не менее, нет ни одного упоминания о кольце Св. Петра.

Ношение папского кольца, скорее всего, связано с традицией ношения епископских колец. Примерно с 610 г. становится известно, что епископы носили особенные кольца. Вместе с тем сообщалось и о епископском посохе как о символе служения, который олицетворял мистическое единение с его епархией. С течением времени церемония надевания кольца для новопризванных епископов стала частью посвящения в сан епископа.

Возможно, из-за своей обручальной символики и по литургическим причинам носить такое кольцо принято на безымянном пальце. Так как кольца часто надевали поверх епископских перчаток, они были довольно большими или снабжались специальным механизмом, который позволял регулировать их размер.

Раньше кольцо епископа было довольно большим, выполненным из золота и украшенным аметистом. Сейчас эти кольца выглядят намного проще, часто на них можно найти гравировки с христианскими символами. Некоторые епископы предпочитают носить одно простое кольцо, а другие хранят более изысканные кольца для торжественных богослужений.

Недавно назначенные кардиналы тоже получают кольцо от Папы – он сам решает, как оно будет выглядеть.

Кольцо Папы, следовательно, по своей сути – это епископское кольцо с символами, которые отражают особенности папского служения. На кольце обычно изображается Святой Петр, забросивший рыболовные сети, и надпись «Кольцо рыбака» с выбранным понтификом именем.

Для каждого Папы создается новое кольцо. Примерно с 1250-ых гг. кольцо использовалось для запечатывания личной документации Папы, а с 1400-ых гг. – для его публичной корреспонденции. Такая практика прекратилась в 1842 г. Причиной этому стала традиция уничтожать Кольцо рыбака после смерти Папы во избежание злоупотреблений. Традиция эта до сих пор существует, однако теперь кольца не столь изысканны: чаще всего на них изображается только крест.

Каждый Папа сам решает, когда ему следует надеть кольцо. Такое кольцо обычно не носят ежедневно. Более того, Папа Пий XII надел Кольцо рыбака только однажды – во время Папской коронации, что стало примером для его последователей, среди которых св. Иоанн Павел II. Эти Папы либо носили обычное кольцо своего предшественника, либо продолжали надевать то кольцо, которое они использовали, будучи епископами.

Папа Бенедикт XVI предпочитал носить Кольцо рыбака ежедневно. Папа Франциск вернулся к ранней традиции ношения личного кольца каждый день, но во время некоторых литургических богослужений он надевает другое кольцо. Эскиз Кольца рыбака, которое он носит, был первоначально создан для Папы Павла VI, но до этого времени кольцо не было выполнено в металле.


Папа Бенедикт XVI



# “Я ляўшун. Ці магу я рабіць знак крыжа левай рукой?”

### Ці можна рабіць знак крыжа левай рукой?

“Хрысціянін пачынае свой дзень, свае малітвы і справы знакам крыжа: “У імя Айца, і Сына, і Духа Святога. Амэн!”. Ахрышчаны прысвячае ўвесь свой дзень Божай славе і просіць Збаўцу пра ласку, якая дазваляе яму дзейнічаць у Духу Святым як дзіцяці Айца. Знак крыжа ўмацоўвае нас перад спакусамі і ў цяжкасцях” (Катэхізіс Каталіцкага Касцёла, 2157).

Езус, раскінуўшы рукі на крыжы, быў першым чалавекам, Які паказаў знак крыжа. А Яго рукі, працягнутыя паміж небам і зямлёй, сталі знакам Запавету.

У першыя стагоддзі хрысціянства было прынята рабіць знак крыжа на ілбе. Паступова гэты звычай змяніўся на знак, вядомы нам сёння: вялікі крыж на сабе ад ілба да грудзей і ад аднаго пляча да іншага: хрысціяне заходняга абраду злева направа, а ўсходняга – наадварот.

Калі вы зразумееце сэнс гэтага жэсту, то з гонарам будзеце рабіць знак крыжа.

### Чаму святары благаслаўляюць правай рукой?

На старых іконах Хрыстос і Айцы Касцёла благаслаўляюць правай рукой. Правы бок сімвалізуе радасць выратаваных, тых, хто напаўняе волю Божую, бо Сын паставіць верных авечак па сваёй правіцы (Мц 25,31).

Такі знак крыжа мае таксама глыбокае тэалагічнае значэнне. Мы пачынаем рабіць крыж правай рукой ад галавы да грудзей, прызнаючы, што наш Госпад Хрыстос праз сваё Уцелаўленне сышоў зверху (гэта значыць ад Айца) на зямлю.

Працягваем знак крыжа злева (там знаходзіцца сэрца – месца, дзе мы з любоўю захоўваем Велікодную таямніцу Езуса – Яго вялікія пакуты і смерць) направа, успамінаючы, што Езус сядзіць праваруч Айца ў славе Уваскрасення. Такім чынам крыж увянчаны нябеснай славай.

Касцёл заўсёды лічыў правы бок сімвалічна важным. Таму мы таксама робім знак крыжа правай рукой.

### Ці абавязкова рабіць знак крыжа правай рукой?

Так. Мы не маем права змяняць, адмаўляць або крытыкаваць, згодна з нашым бачаннем, хрысціянскую традыцыю, якая мае свой глыбокі пачатак. Бо і ў грамадскім жыцці з’яўляюцца пратаколы, якія мы паважаем, нават калі не ведаем іх паходжання або значэння. Напрыклад, вітаючы кагосьці, мы падаём правую руку, а не левую.

Правілы этыкету ў жыцці грамадства – гэта не проста звычайныя фармальнасці; яны выказваюць добразычлівасць і павагу. Калі людзі спантанна забываюць пра добрыя манеры, то могуць стаць грубымі, нявыхаванымі і сухімі.

У рэлігійным жыцці адбываецца нешта падобнае. Таму, напрыклад, святар раздае Камунію правай рукой, нават калі ён ляўшун. Не забаронена і не з’яўляецца грахом падаць Камунію левай рукой, але гэта прыкмета добрай літургічнай фармацыі.

### Шанаваць крыж

Калі мы разумеем, чым быў крыж у жыцці Езуса і чым ён ёсць у справе нашага збаўлення, калі памятаем, што на крыжы Езус палюбіў нас да канца, калі наш малы жэст знака крыжа свядомы, то мы накіроўваем наша жыццё ў добры бок, таму што насіць крыж – гэта тое, пра што просіць Езус, калі мы хочам Яго наследаваць.

Кожны сімвалічны жэст можа дапамагчы нам увайсці ў зносіны з тым, што гэты жэст азначае, а гэта – самае важнае.

*Паводле credo.pro*

*Пераклад*
***Марыны Сінкевіч***



## Хвала Хрысту!

*З нагоды Дня святарства віншуем нашых паважаных святароў – **ксяндза Мікалая Цiхановіча**, **ксяндза Івана Кароткіна**, **дыякана Уладзіслава Шарковіча**!*

*Шчыра дзякуем Вам, што адгукнуліся на заклік Хрыста! Дзякуем за кожную Эўхарыстыю, за споведзь, за малітву і блаславенне, за Вашы ўсмешкі і Вашую добразычлівасць! Няхай міласэрны Пан адорыць Вас усімі ласкамі, якія патрэбны ў святарскім служэнні! З любоўю працягвайце несці праўду, надзею, радасць, веру, а галоўнае – несці Езуса і Яго святло!*

***Вернікі парафіі Святой Тройцы ў Глыбокім***

## Хвала Хрысту!

*Выказваем шчырую ўдзячнасць **ксяндзу Івану Кароткіну**, які 28-30 сакавіка праводзіў у нашай парафіі рэкалекцыі – падрыхтаваў вернікаў да свята Уваскрасення Пана. Вельмі добра прамаўляў да нас ксёндз Іван пра сумленне, споведзь і прабачэнне, даступна растлумачыў евангельскія прыпавесці, прыводзячы прыклады з нашага жыцця. Малітва падчас Крыжовага шляху асаблівым чынам кранула нашыя сэрцы. Таксама святар спавядаў хворых па месцы жыхарства.*

*Віншуем Вас, шаноўны ксёндз Іван, з надыходам свята Уваскрасення Пана! Жадаем моцы духу ў душпастырскай дзейнасці, любові Хрыста. Хай Маці Божая ахінае Вас сваім плашчом міласэрнасці ўсё жыццё! Хай запаленая ў Вашым сэрцы іскра паклікання разгараецца полымем на доўгія гады святарскага служэння!*

***Удзячныя вернікі парафіі Перамянення Пана ў в. Германавічы***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!



*Віншуем нашага дарагога **ксяндза Яна Пугачова** з Днём святарства і Вялікаднем!*

*Жадаем моцнага здароўя, Божай ласкі, здзяйснення ўсіх мараў, шмат сілы, моцы для служэння Пану Богу. Няхай Божая Маці штодня атуляе сваёй міласэрнасцю, а святло Уваскрослага Хрыста асвячае Ваш святарскі шлях!*

***“Маргарытка”, парафія Перамянення Пана ў Германавічах***

## Шаноўны ксёндз-пробашч Ежы Вільк!



*Сардэчна віншуем Вас з Днём нараджэння (17 красавіка)!*

*Жадаем Вам моцнага здароўя, надзейнай апекі Святога Заступніка нябеснага. Няхай Святы Дух апраменьвае сваім святлом кожны дзень Вашай святарскай паслугі, Езус хай заўжды будзе Вашым сябрам, а Марыя прыхінае Вас да свайго сэрца!*

*Выказваем Вам вялікую пашану і ўдзячнасць за натхнёную працу на Божай ніве, за глыбокую веру, за шчырую малітву, за нястомны клопат пра наша духоўнае здароўе!*

***З павагай і ўдзячнасцю, парафіяне касцёла Святога Міхала Арханёла ў г.п. Варапаева***

## Хвала Хрысту!

*Шаноўны **ксёндз Сяргей Сурыновіч**! Дасылаем Вам шчырыя словы віншавання з нагоды Дня нараджэння (13 красавіка)! Няхай добры Бог адорвае Вас ласкамі і супакоем і далей дапамагае Вам ва ўсіх справах, у выкананні нялёгкай святарскай паслугі! Няхай Дух Святы натхняе на доўгую і плённую святарскую службу, а Езус Хрыстус, Якога Вы штодзённа трымаеце ў сваіх святарскіх руках, хай бласлаўляе кожны Ваш дзень! Жадаем, каб здароўе ніколі не падводзіла, а побач былі спагадлівыя людзі.*

*Шчыра дзякуем за клопат, за ласку і дабрыню, за тое, што вучыце нас, парафіян, любіць Бога і бліжняга. Дзякуем за Вашу адданую працу і малітву за нас, простых людзей. Вялікі дзякуй і нізкі паклон Вашым бацькам за сына-святара!*

***Вернікі касцёла Святой Тройцы ў Друі (Браслаўскі р-н)***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*Дасылаем пяшчотныя словы віншавання і вялікай удзячнасці нашаму **ксяндзу Сяргею Сурыновічу**, які 13 красавіка адзначыў Дзень нараджэння!*

*Паважаны ксёндз Сяргей! Складаем Вам сардэчныя пажаданні здароўя на доўгія гады, супакою, Божай міласэрнасці, апекі Маці Божай, святла Духа Святога!*

*Дзякуем Вам за працу, за шчырасць і адданасць, дзякуем за Божае слова, за Ваша добрае сэрца, за глыбокую веру, за аптымізм і любоў да людзей!*

*Дзякуем Богу за дар Вашага жыцця і за ласку спаткання з Вамі на нашай зямлі!*

*Мы вельмі ўдзячныя Вашым бацькам за сына-святара!*

***З павагай і малітвамі за Вас, вернікі парафіі Святога Юзафа (капліца ў аг. Друйск)***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*Шаноўны **ксёндз Юрый Жаўняровіч**! Шчыра віншуем Вас з Вялікаднем і імянінамі (23 красавіка)!*

*Жадаем Вам добрага здароўя, душэўнага спакою, плёну ў працы, моцнай вытрымкі на шляху служэння Богу і людзям! Дзякуем Вам за шчырую малітву, за прыклад пабожнасці, за клопат пра людзей і за тое, што Вы з намі і для нас. Нізкі паклон Вашым бацькам за сына-святара!*

***З павагай і ўдзячнасцю, парафіяне касцёла Узвышэння Святога Крыжа (аг. Ахрэмаўцы, Браслаўскі р-н)***

## Хвала Хрысту!

*23 красавіка –імяніны ў нашага шаноўнага **ксяндза Юрыя Жаўняровіча**.*

*Віншуем ксяндза Юрыя з гэтай нагоды і жадаем яму моцнага здароўя, ажыццяўлення ўсіх планаў і задумак, поспехаў у душпастырскай працы!*

*Нізкі паклон Вам, шаноўны святар, за сумесныя малітвы, за дабрыню, за разуменне і цярплівасць! Няхай усмешка заўсёды гасціць на Вашым твары!*

***Вернікі Замошскай парафіі***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!



*Паважаны **ксёндз Марат Казлоўскі**! Сардэчна віншуем Вас з імянінамі і Вялікаднем! Жадаем Вам духоўнай моцы, моцнага здароўя, дароў Духа Святога, нястомнай апекі нябеснага апекуна, Божай міласэрнасці!*

***З пашанай,
Часлава Лаўрыновіч і Марына Ткачонак***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*Парафія святога Андрэя Баболі ў Полацку шчыра віншуе свайго пробашча **ксяндза Францішка Кісяля** з 60-гадовым юбілеем! Жадаем Вам, шаноўны ксёндз Францішак, моцнага здароўя, апекі Маці Божай і шчодрых дароў Духа Святога! Дзякуем Вам за святарскую паслугу і дабрыню!*

**Ксяндзу Францішку на яго 60-годдзе**

Сёння ўсе мы Вас вітаем,
Ксёндз Францішак дарагі!
Мы сабе і не ўяўляем,
Што ў нас ксёндз мог быць другі.

Мы ўсе да Вас прывыклі,
Вам вядома ўсё пра нас,
Бо сваёй дарогай звыклай
Ідзём да споведзі ў свой час.

Дзякуем Вам за цярпенне,
За адпуст нашых грахоў.
Дзякуем за бласлаўленне,
Што даеце нам ізноў.

Бог прадвызначыў дарогу
І Вы паклалі на Алтар
Службу людзям, Пану Богу,
Гэта – найвялікшы дар!

Сёння Бога шчыра просім
Даць Вам многія гады!
60 – гэта не восень,
Сапраўды ж, Вы малады!

Просім Бога даць здароўя,
Даць Вам радасці, цяпла,
Каб Святая Маці ахоўна
Вас па ўсіх шляхах вяла!

***Яўгенія Барысёнак***

## Хвала Хрысту!

*13 красавіка вікарый нашай парафіі **ксёндз Алег Хмылко** адзначыў Дзень нараджэння. Яму споўнілася 30 гадоў.*

*Шаноўны ксёндз Алег! Сардэчна віншуем Вас з Днём нараджэння! Жадаем Вам моцнага здароўя, добрага настрою, плённага святарскага служэння, надзейных сяброў, поспехаў у штодзённай працы і іншых простых рэчаў, так патрэбных кожнаму чалавеку, – любові, павагі, падтрымкі і разумення!*

*Вы шмат працуеце з моладдзю, таму жадаем заўсёды заставацца маладым душой і быць для новага пакалення прыкладам веры, надзеі і любові!*

*Дзякуем за ахвярнае служэнне ў нашай супольнасці! Просім Пана Бога пра патрэбныя ласкі для Вас!*

***З павагай і ўдзячнасцю, вернікі парафіі Езуса Міласэрнага, г. Віцебск***

## Віншуем з Днём святара!



*Дарагія нашы святары! Шаноўныя **ксёндз Павел і ксёндз Алег**!*

*Шчыра віншуем Вас з нагоды Дня ўстанаўлення сакраманту святарства! Жадаем Вам трываласці на абраным шляху! Няхай хапае Вам сіл, мудрасці, разважлівасці, пакоры і цярпення! Адкрывайце Пана Бога для сябе і дзяліцеся Ім з намі! Працягвайце несці любоў туды, дзе яе не хапае, працягвайце яднаць, прабачаць, суцяшаць! Будзьце шчаслівымі ў сваім пакліканні!*

*Нельга выказаць словамі тую ўдзячнасць, якую мы адчуваем да сваіх святароў! Мы молімся за Вас і дзякуем за тое, што ўзрушваеце нашыя сэрцы, адкрываеце нам шлях да Бога, дзякуем за карысныя парады, настаўленні, за Вашыя малітвы і добрыя словы.*

*Віншуем таксама ўсіх святароў, якія працавалі ў нашай парафіі! Мы памятаем Вас і дзякуем за ўсё дабро, якое Вы для нас зрабілі!*

***З вялікай удзячнасцю, вернікі парафіі Езуса Міласэрнага, г. Віцебск***



## Хвала Хрысту!

*Віншуем нашага пробашча **ксяндза Мікалая Ліпскага** з Днём пасвячэння ў святары (8 красавіка)! 12 гадоў ксёндз Мікалай працуе на Божай ніве.*

*Жадаем Вам, шаноўны ксёндз Мікалай, моцнага здароўя, здзяйснення мараў, добразычлівых людзей побач. Дзякуем Вам за плённую працу на карысць Касцёла і нашай парафіі!*

***З павагай, вернікі касцёла Святой Марыі Магдалены, г. Новалукомль***

## Хрыстус уваскрос!

*Мы хочам павіншаваць **ксяндза Мікалая Ліпскага** са святам Вялікадня.*

*Жадаем Вам, шаноўны ксёндз Мікалай, моцнага здароўя, апекі Маці Божай на доўгія гады, Божай дапамогі!*

*Нашы віншаванні і пажаданні хочам перадаць таксама Вашым бацькам. Здароўя ім на доўгія гады і наша падзяка за сына-святара!*

***Вернікі парафіі святой Марыі Магдалены***

## Віншуем!



*Паважаныя **ксёндз Кшыштаф** і **ксёндз Генадзь**! Дарагія нашы святары!*

*Вялікі Чацвер. Мы ўспамінаем устанаўленне Сакрамантаў Эўхарыстыі і Святарства. У гэты выключны для Вас дзень мы жадаем, каб Вы заўсёды адчувалі блізкасць Таго, Хто Вас паклікаў і Каму Вы аддаяце сваё жыццё.*

*Дзякуем Вам, што кожны дзень праз Вашу паслугу адбываецца некрывавая ахвяра Адкуплення, што корміце нас Целам і Словам Божага Сына! Жадаем Вам, каб трыванне з Хрыстом, асабліва калі Вам цяжка, было ўзнагароджана радасцю Змёртвыхпаўстання!*



***З малітвай і павагай, вернікі парафіі Узвышэння Святога Крыжа з Шаркаўшчыны***

**Правільныя адказы на тэст са старонкі 9**
1 – Б; 2 – А; 3 – В; 4 – В; 5 – Б; 6 – А; 7 – В; 8 – В

## Сёстры ў Хрысце

Умілай майму сэрцу вёсцы жывуць у добрым суседстве дзве жанчыны паважанага ўзросту. Адна, пакуль мела сілы, штодзённа хадзіла на Імшу ў касцёл, другая, маладзейшая, у нядзелю і ў святы ездзіць у царкву. Старэйшая занядужыла, ёй спатрэбілася тэрмінова класціся ў бальніцу на аперацыю. Тады яе сяброўка-праваслаўная сказала: "А раптам ты памрэш непадрыхтаванай? Не маладзенькая ж, дзясяты дзясятак ідзе табе. Як я тады буду жыць?" І пайшла па ксяндза.

Святар прыйшоў, паспавядаў, памаліўся, ўдзяліў намашчэнне і падзякаваў суседцы за спагаду.

Аперацыя прайшла паспяхова, жанчына вярнулася дамоў. І зноў ёй спачувае і дапамагае верная сяброўка. Ці ж гэта не сапраўдныя сёстры ў Хрысце?!

## Сіла традыцыі

Вярнулася знаёмая ў велікодную ноч з касцёла пад раніцу. Адразу заглянула ў пакой да старэнькай матулі, якая не спала, гучна прамовіла: "Хрыстос уваскрос!" Але маці замахала на яе рукамі: "Ідзі адсюль, не віншуй і не спявай, бо Хрыстус яшчэ не ўваскрос!" Дачка вельмі здзівілася: "Як не ўваскрос?! Я ж была ў касцёле, ішла ў працэсіі, ксёндз абвясціў, што Хрыстос уваскрос!" Кабета ўпарцілася: "Цяпер ноч, Хрыстус раніцай уваскрэсне! У нашай парафіі раней працэсія толькі раніцай адбывалася".

## Уменне выслухаць

Устарасці людзям хочацца пагаварыць, расказаць пра пражытае жыццё, падзяліцца набытым вопытам, засцерагчы маладзейшых ад магчымых памылак. Але часта іх няма каму выслухаць. Маладыя занятыя неадкладнымі справамі, у іх не хапае часу, а бывае, і жадання слухаць.

А дарэмна. Мне з захапленнем расказалі пра мужчыну, які на працягу некалькіх гадоў кожны вечар прыходзіў да сваёй маці (аж да яе смерці), каб дапамагчы ў хатніх справах, а потым спакойна пасядзець за кубачкам гарбаты або кавы і паразмаўляць з матуляй, выслухаць яе. Выслухаць і зразумець.

***Алена Пажога***



## Атрымала па веры сваёй



Ксеня, маладая, прыгожая, добрая жанчына была вельмі нешчаслівая: яна не мела дзяцей. Шмат гадоў лячылася, шмат грошай выдаткавала, замучыла мужа просьбамі ўсынавіць дзіця, але той не даваў згоды, не траціў надзеі на сваю крывіначку.

Цётка Ксені – шчырая верніца – ездзіла штогод у Будслаў на ўрачыстае набажэнства да Найсвяцейшай Панны Марыі, шмат малілася за пляменніцу, прасіла Ксеню скласці свае просьбы да цудатворнага абраза. Але маладая жанчына была ўвесь час вельмі занятая, адмаўлялася.

Нарэшце, зняверыўшыся ў дактарах, амаль страціўшы надзею стаць маці, яна сабралася ў Будслаў. Вырашылі з цёткай Ганнай ісці з пешымі пілігрымамі. Чатыры дні ў дарозе аднялі шмат фізічных сіл, але супольныя малітвы, адпачынак у добрых людзей прывялі жанчыну ў стан ціхай пакоры і лагоднасці. Малітвы каля абраза Маці Божай Будслаўскай, калі слёзы самі ліліся з вачэй, а вусны шапталі словы прабачэння і ўдзячнасці, напоўнілі яе сэрца любоўю і верай у цуд, нібы Найсвяцейшая Панна раскінула над ёй свой святы пакроў, усяляючы надзею, ахоўваючы ад горкіх расчараванняў.

Дамоў дабіраліся аўтобусам з пілігрымамі з Пастаў, а потым на цягніку. У вагоне людзей было мала, змораныя жанчыны задрамалі. Ксені прыснілася, што яна нарадзіла сына, прыгожага хлопчыка з добрымі вачыма і светлымі кучаравымі валасамі, быццам анёлка з абраза.

У наступным годзе 16 красавіка Ксеня насамрэч нарадзіла сына. Роды былі цяжкія, урачы змагаліся за жыццё маці і дзіцяці, але ўсё скончылася добра.

"О Найсвяцейшая, Ты радуеш свет, каб з Тваёй дапамогай ён пераадолеў цяжкія выпрабаванні!" – шаптала шчаслівая Ксеня, тулячы сына да грудзей.

***Нэля Лось***
*(мястэчка Лынтупы, парафія святога Андрэя Апостала)*

## Крыж

Што ж за цяжкі Твой крыж, о Божа,
Які на плечы Ты ўзнёс!
Твая ахвяра дапаможа
Прайсці нам шлях аж да нябёс!

Ты навучы нас грэшных, Божа,
Як несці нам штодзённы крыж.
Твая нам ласка дапаможа,
З любоўю Ты на нас глядзіш.

Без дапамогі Тваёй, Божа,
Не можам кроку мы ступіць.
Ты навучы нас, мудры Божа,
Дабро, як Ты, усім чыніць.



***Данута Вянсковіч,***
*г. Гродна*

# Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку "Газетная закрыстыя".**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету "Каталіцкі Веснік". Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:

***Газета "Каталіцкі Веснік" вул. Савецкая, 1 211793 г. Глыбокае Віцебскай вобл.***

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 10 рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:

***Місевіч Віктар Мар'янавіч вул. Савецкая, 1 211793 г. Глыбокае Віцебскай вобл.***

**Хто адпраўляе св. Імшы ў гэтых інтэнцыях?**

Гэта робяць святары ва ўсходніх раёнах Беларусі, дзе шмат небагатых парафій.

Дарагія сябры! Запрашаем Вас прыняць удзел у праекце "Газетная закрыстыя". Дашліце ахвяраванне на св. Імшу. Гэтым вы падтрымаеце святароў на ўсходзе краіны.

Будзьма адказнымі адно за аднаго. Будуйма Божае Валадарства ў нашай краіне разам! Няхай праз нашае супрацоўніцтва ў газеце "Каталіцкі Веснік" Касцёл у Беларусі мацнее і развіваецца на хвалу Божую і радасць людзям!

***Рэдакцыя***
*"Каталіцкага Весніка"*

## Інтэнцыя св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |

# Біблейскі заапарк: бусел

**Гэтыя выдатныя птушкі з самых старажытных часоў лічыліся знакамі сямейнай вернасці, а таксама любові да сваіх бацькоў. З часоў Старажытнага Рыма існавала нават такое паняцце, як "закон бусла" – абавязак клапаціцца пра сваіх састарэлых бацькоў.**

**Анна Гольдзіна**, *рускатолик.рф;*
**Зміцер Лупач**, *пераклад на беларускую мову*

У сярэднявечных бестыярыях можна прачытаць пра тое, што маладыя буслы спецыяльна выскубаюць пёры, каб падзяліцца імі са сваімі старымі бацькамі. Лічылася, што пажылыя буслы лысеюць.

Зрэшты, у больш позні час арнітолагі высветлілі, што ўсё гэта толькі легенды, якія не маюць дачынення да рэчаіснасці. Былі нават здагадкі, якія, дарэчы сказаць, праіснавалі даволі доўга, што буслы, збіраючыся перад адлётам на свайго кшталту раду дзе-небудзь на аддаленым полі або балоце, выганялі ці нават забівалі пажылых або хваравітых птушак, каторыя маглі б запаволіць рух чарады. Толькі зусім нядаўна арнітолагі звярнулі ўвагу, што чараду буслоў вядзе не самая моцная, як думалі раней, а самая старая птушка. Важак добра ведае дарогу і задае тэмп. Былі праведзеныя эксперыменты, калі маладых, але ўжо былых некалькі разоў у пералётах буслоў затрымлівалі з вылетам, і потым яны вымушаныя былі даганяць сваю чараду. Аказалася, што, накіроўваючыся ў Егіпет, Сірыю або Палесціну, буслы маглі ўспомніць шлях толькі да Грэцыі. Тут яны асядалі на зіму і да вясны чакалі сваіх суродзічаў, якія накіроўваліся назад, на поўнач.

Маладыя буслы, на самай справе, даволі агрэсіўныя асобіны. Як гэта здараецца ў большасці птушак, яны проста могуць выгнаць сваіх бацькоў з наседжанага і дагледжанага гнязда. Асабліва калі бусел-бацька ўжо састарэў і яму складана абараніць звыклае месца пражывання. Так што павага і любоў буслоў да старэйшых аказаліся ўсяго толькі легендай, хоць і вельмі папулярнай у складальнікаў бестыярыяў.

Дарэчы, і манагамія буслоў з'яўляецца не зусім праўдай. Справа ў тым, што бусліхі цалкам могуць пакінуць ненадоўга гняздо, каб сустрэцца з іншым буслом у адсутнасць мужа, які адправіўся па чарговых жаб для птушанят. Пра гэта можна прачытаць, напрыклад, у вядомага біёлага Альфрэда Брэма. Мабыць, і ў буслоў існуюць свае халасцякі-сэрцаеды, здольныя збіць прыстойную кумачку са шляху праўдзівага. А на працягу многіх стагоддзяў у хрысціянскіх бестыярыях буслы параўноўваліся з хрысціянскімі мужам і жонкай, якія заўжды захоўваюць вернасць адзін аднаму.



А вось так званы "суд буслоў" на самай справе існуе. Буслы сапраўды збіраюцца на балотах і аддаленых палях перад адлётам і праводзяць пэўнага кшталту агляд сваіх войскаў. Пры гэтым хворых птушак сапраўды могуць выгнаць з чарады, каб яны не затрымлівалі пералёт. І, нягледзячы на тое, што шлюбы ў буслоў заключаюцца на ўсё жыццё, муж-бусел можа пакінуць сваю хворую сяброўку, як і жонка пакідае бусла, няздольнага да працяглага пералёту. Мабыць, так і з'яўляюцца ў чарадзе буслы-халасцякі.

Калі працягваць размову пра сярэднявечныя бестыярыі, то варта звярнуць увагу і на тое, што бусел разглядаўся як вобраз Хрыста. Справа ў тым, што гэтая птушка палюе не толькі на жаб, але і на змей. Змеі заўсёды ўспрымаліся адмоўна, а іх шыпенне і вылучаны пры ўкусе яд лічыліся праявай іх дэманічнай сутнасці. Бусел жа сваёй доўгай дзюбай руйнуе змяіныя норы і перакусвае гадаў, якія шыпяць. Тым самым ён прыпадабняецца да Хрыста, Які перамагае старажытнага Змея. Па гэтай жа прычыне бусел з'яўляецца адным з сімвалаў Панны Марыі. Лічылася, што ён, выцягваючы змея з нары, прыціскае яго да зямлі і прабівае яму галаву.

Буслы, што ляцяць па небе, нагадвалі людзям анёлаў. У сувязі з гэтым з'явілся розныя легенды, якія апавядаюць пра дапамогу буслоў людзям і, вядома, пра іх незвычайную ўдзячнасць.

Паводле аднаго з такіх народных паданняў, Бог, ствараючы разнастайных змей і скарпіёнаў, зразумеў, што атрымаліся яны неяк нядобра. Тады Ён склаў іх у вялікі мех і даручыў чалавеку выкінуць яго ў мора. Але цікаўны чалавек раскрыў мяшок, і гады тут жа распаўзліся і разбегліся па ўсёй зямлі. Тады Бог ператварыў гэтага чалавека ў бусла, каб той хадзіў па зямлі і збіраў усё, што распусціў.

Іншая легенда апавядае пра тое, што мех з камарамі, мошкамі і змеямі развязаў арханёл Міхаіл, і тады Бог аднаго з анёлаў ператварыў у бусла, каб той ачышчаў зямлю і дапамагаў людзям.

Гісторыі пра ўдзячнасць буслоў заўсёды звязаныя з іх цудоўным выратаваннем. То жанчына выратуе бусляня з лап дзікай жывёліны, то чалавек, які праходзіць па лесе, выцягне захраслую ў карчы птушку... Людзі выходжвалі буслоў, і тыя не заставаліся ў даўгу. Ачуняўшы, яны ляцелі да сваіх суродзічаў, каб потым вярнуцца да сваіх выратавальнікаў і прынесці ім які-небудзь падарунак. Вялікі каштоўны камень, напрыклад, які мог забяспечыць чалавеку нябеднае існаванне.

Згадваюцца буслы і ў Бібліі. Праўда, не больш за пяць разоў. Ды і то некаторыя даследчыкі падазраюць, што быў зроблены няправільны пераклад, і гаворка ідзе, хутчэй, пра чаплю. Справа ў тым, што ў 103 псальме гаворыцца: "Кедрам Ліванскім, Табой пасаджаным, даеш Ты вільгаць. Птушкі ўюць на іх гнёзды, толькі буслы выбралі елкі" (Пс 103, 16-17). Белыя буслы ўжо шмат стагоддзяў суправаджаюць чалавека, селяцца на дахах дамоў або на высокіх слупах. Так, у Германіі выявілі буслінае гняздо, якое было пабудавана на даху дома ў XVI стагоддзі і праслужыла птушкам да 1930 года, аж пакуль дом не перабудавалі.

Але ў тыя часы, калі ствараліся псалмы, буслы яшчэ вялі асобны ад чалавека лад жыцця. Вядомыя сведчанні падарожнікаў, у якіх гаворыцца пра буслоў, што будуюць свае гіганцкія гнёзды, каторыя дасягаюць, як і ў нашы дні, да паўтара метра ў дыяметры, у лесе, на верхавінах дрэў.

Трэба сказаць, што, акрамя добра ўсім вядомых белых буслоў, існуюць яшчэ і буслы чорныя. Яны да гэтага часу аддаюць перавагу жыццю ў лесе і не сустракацца з чалавекам.

У сучасным Ізраілі ёсць буслы і белыя, і чорныя, але гняздуюцца яны тут рэдка. Звычайна гэтыя месцы выкарыстоўваюцца птушкамі для адпачынку пры пералёце ў Афрыку або назад, у Еўропу. Так у канцы сакавіка – пачатку красавіка тэрыторыю сучаснага Ізраіля за адзін дзень можа перасекчы гіганцкая чарада, якая налічвае да сямі тысяч птушак. Яны пралятаюць над далінай Бейт-Шэана, а затым ляцяць праз паўночную частку Юдэйскай пустыні да Мёртвага мора, да цэнтру Негева і да Сінайскага паўвострава. У гэты час арнітолагі просяць спыніць усе аграрныя працы, каб не спужаць птушак і не нашкодзіць ім. А яны, калі робяць прывал на палях, знішчаюць усіх грызуноў, якія потым маглі б нашкодзіць пасевам.

Цікава, што далейшы шлях буслоў у Еўропу (і, вядома, з Еўропы) праз Балканы супадае са шляхамі Крыжовых паходаў. Гэта было адзначана і зафіксавана самімі крыжакамі, а таксама пілігрымамі. Так бусел стаў яшчэ і птушкай пілігрымаў. У той жа час з'явілася легенда, згодна з якой буслы па прылёце ў Святую Зямлю акунаюцца ў нейкае чароўнае возера і на час пераўвасабляюцца ў людзей. А потым зноў становяцца птушкамі, каб ляцець у паўночныя краіны.

Біблія называе буслоў сярод нячыстых птушак, г.зн. іх нельга ўжываць у ежу (Леў 11,19). Але цікава, што на іўрыце белы бусел называецца "хасіда" (חסידה). Гэтае слова роднаснае са словам "хэсэд" – дабрыня, міласэрнасць і са словам "хасід" – набожны. Малюнак бусла можна было сустрэць на многіх габрэйскіх магілах у Еўропе. Гэта азначала, што тут спачываюць праведнікі.

На тэму буслоў і іх назвы можна сустрэць цікавыя разважанні габрэйскіх мудрацоў. Напрыклад, адзін з іх піша, што буслы не ўмеюць аказваць правільны хэсэд, г.зн. міласць. Іх міласэрнасць звернута толькі да іх саміх, толькі да сваёй сям'і. У той час як сапраўдны хэсэд не ведае межаў і не можа быць накіраваны толькі на адну сям'ю або на адну супольнасць. Ён ахоплівае ўсіх, нават прадстаўнікоў іншых народаў. Тым не менш, з назвы птушкі відавочна, што ўжо ў біблейскія часы ёй прыпісвалі якасці, якія рабілі яе сімвалам набожнасці і вернасці. А прыгожая белая постаць з падкрэсленымі чорнай аблямоўкай крыламі ўспрымалася як нешта містычнае.

У прарока Захарыі згадваюцца менавіта вялікія крылы буслоў. "Затым я паглядзеў і ўбачыў дзве постаці з крыламі, як у буслоў. Яны вылецелі, і вецер падымаў іх крылы" (Зах 5,9). Вялікія крылы патрэбныя былі жанчынам, каб падобна да буслоў пераляцець на вялікую адлегласць. Ім трэба было дабрацца да самага Вавілона і аднесці туды вядро, у якім было само зло (Зах 5, 8). Такім чынам, з крыламі буслоў выносіцца ўся бязбожнасць з Ізраіля туды, дзе яму і належыць быць, у Вавілон.

Дарэчы, у казцы Вільгельма Гаўфа "Халіф-бусел" халіфа клічуць Хасід. Мабыць, нямецкі аўтар вырашыў, што хасіда – гэта арабскае слова, падобнае да імя Мансур. Так звалі візіра, разам з якім халіф ператварыўся ў бусла. Хасіда стала Хасідам, які меў глупства засмяяцца і забыцца чароўнае слова. Яны ператварыліся ў шляхетных птушак і захавалі высакароднасць сэрцаў. Мабыць, таму ім спадарожнічала ўдача. Хасід сустрэў сваю прынцэсу. І яны здолелі зноў стаць людзьмі.

Пазнаём Хрыста і Яго Касцёл!

# Пазнавайка

## Вучымся давяраць Богу

У гэтым нумары мы сабралі для вас некалькі гісторый з Бібліі, якія вучаць нас давяраць Богу.

У кнізе Быцця 18, 1-15 прачытай гісторыю Абрагама і Сары і даведайся, хто засумняваўся ў словах Госпада і не паверыў у Яго магутнасць.

### заданне №1

Хто не паверыў словам Госпада? Каб выканаць гэтае заданне мусіш выпісаць па парадку літары з блакітных зорачак і скласці слова, адказ запішы ўнізе, а таксама, калі зможаш, палічы ўсе зорачкі на малюнку.




### заданне №2

Абрагам меў пляменніка Лота. Бог захацеў ратаваць Лота і яго сям'ю ад смерці.

Каб выканаць наступнае заданне і зразумець ад чаго ўцякаў Лот і яго сям'я, прачытай урывак з кнігі Быцця 19, 1-29.



***Дапамажы Лоту хутчэй выйсці з грэшнага горада Садомы.***

### заданне №3

Жонка Лота не паслухалася Божага наказу і азірнулася. Калі злучыш правільна па парадку кропкі, убачыш, што з ёй сталася. Размалюй.



### заданне №4

У Абрагама нарадзіўся сын Ісаак, якога ён моцна любіў. Але Абрагам таксама моцна любіў Бога і быў Яму паслухмяны. Пра гісторыю даверу Абрагама да Бога прачытай у кнізе Быцця 22, 1-19.

**Знайдзі 10 адрозненняў на малюнку.**





### заданне №5

**Паразважай над думкай**: ***ці давяраеш ты ў сваім жыцці Богу?*** І як думаеш, чаму вучаць нас гэтыя гісторыі з Бібліі? Разважанні запішы.

## Святая Жазэфіна Бакіта, панна



Святая нарадзілася каля 1870 г. у Судане (Афрыка). Калі Жазэфіне было сем год, арабскія гандляры выкралі яе з роднага дому і прадалі ў рабства. Ад перанесенага шоку, дзяўчынка забылася сваё імя. Выкрадальнікі называлі яе «Бакіта», што па-арабску азначае «Шчаслівіца». Бакіта з дзяцінства павінна была цяжка працаваць, пакутуючы цялесна і духоўна. Пазней дзяўчыну прадалі італьянскаму консулу і, дзякуючы гэтаму здарэнню, яна атрымала свабоду. У Венецыі Бакіта ўступіла ў законную супольнасць Сясцёр Міласэрнасці. З-за чорнага колеру скуры, нават ужо будучы законніцай, цярпела ад дыскрымінацыі. Святая Жазэфіна любіла паўтараць: «Будзьце добрымі, любіце Госпада, маліцеся за тых, хто не ведае Яго. Памятайце, якое гэта шчасце, што вы ведаеце Яго». Жазэфіна Бакіта памерла 8 лютага 1947 г. у Італіі. Папа Ян Павел II беатыфікаваў яе, а ў 2000 г. кананізаваў.

**Успамін 8 лютага.**

*Мастачка:* ***Вольга Будкіна;*** *ідэя:* ***Вікторыя Колзун***

# Спектакль-містэрыю паказалі ў парафіі Найсвяцейшага Адкупіцеля ў Гродне

**7 красавіка спектакль-містэрыю пад назвай "Аднойчы на скрыжаванні" прадставілі маладыя артысты тэатра імя св. Яна Паўла ІІ, які дзейнічае пры парафіі Найсвяцейшага Адкупіцеля ў Гродне (Дзевятоўка).**

■ **кс. Юрый Марціновіч**, *grodnensis.by*



На спектаклі, мэтай якога было дапамагчы адпаведна падрыхтавацца да святкавання ўрачыстасці Уваскрасення Пана нашага Езуса Хрыста, сабраліся шматлікія вернікі. Маладых артыстаў рыхтавала выконваць іх ролі кіраўніца тэатра Марына Жыбартовіч-Протас.

Для юных акцёраў тэатр стаў часткай іх жыцця. Яны любяць удзельнічаць у пастаноўках, якія паказваюцца з нагоды найвялікшых касцельных святаў.

Эвеліна Лукашэвіч, якая ў тэатры толькі другі год, адзначае, што кожны раз перажывае і стараецца данесці таямніцу любові Бога да чалавека ў такі складаны час.

"Маёй у гэтай пастаноўцы была роля Марыі, Якая дзеля збаўлення людзей аддае самае дарагое ў жыцці – свайго Сына. Але людзі гэтага не разумеюць, яны, апынуўшыся аднойчы на скрыжаванні, не могуць выбраць правільны шлях. А правільная дарога – гэта тая, якая вядзе за Хрыстом, дарога да збаўлення", – кажа дзяўчына.



Усе гледачы пакідалі тэатр задаволеныя, з масай уражанняў і захапленнем. Многія адзначалі прафесійнае выкананне акцёрамі роляў і актуальнасць паслання, якое было скіраванае да сучаснага чалавека. Падкрэслівалася, што ў выступленні артыстаў бачныя іх стараннасць і аддананасць. Кожны жэст, кожнае слова перадае вялікі сэнс, калі ў гэта ўкладзена душа.

"Кожная містэрыя тэатра імя св. Яна Паўла ІІ захапляе і, несумненна, пакідае незабыўны след у памяці. Над гэтым разважаеш і яшчэ праз некалькі дзён", – кажа семінарыст Андрэй Юхнік, які быў сярод гледачоў. Па яго словах, праз тэатр таксама можна евангелізаваць. Доказам гэтаму, напрыклад, стала апошняя містэрыя "Аднойчы на скрыжаванні".

"Унікаючы ў сутнасць слоў і таго, што адбываецца на сцэне, адкрываеш нешта новае нават у тым, што да гэтага часу было вядомым і банальным. Некаторыя моманты сапраўды прымушаюць задумацца і параўнаць са сваім жыццём", – дадае семінарыст.

Вельмі добра, што ў нашай дыяцэзіі ёсць такі тэатр, які аб'ядноўвае маладых людзей дзеля справы абвяшчэння Евангелля. Хочацца проста прыходзіць, глядзець і вучыцца. А гэта сведчыць пра тое, што справа добрая. І як добрую кнігу можна чытаць некалькі разоў, так і добрае выступленне можна глядзець і глядзець.

# Адкуль вы, наш чытач?



- Віцебская дыяцэзія – 371 адказ
- Гродзенская дыяцэзія – 135 адказаў
- Мінска-Магілёўская архідыяцэзія – 155 адказаў
- Пінская дыяцэзія – 26 адказаў
- замежжа – 44 адказы

**Усяго – 731 адказаў**



# Ахвяруй на сайт Catholicnews.by, не выходзячы з дому

Дарагія сябры, ёсць магчымасць дапамагчы сайту Catholicnews.by фінансава.

Наш сайт абнаўляецца намаганнямі некалькіх чалавек. Рэдакцыя нясе транспартныя выдаткі, аплачвае паслугі хостынгу і інш. Мы залежым толькі ад Вашых ахвяраванняў! Дашліце нам ад 1 да 5 рублёў на месяц, і мы Вам будзем вельмі ўдзячныя!

Каб даслаць ахвяраванне, не трэба нікуды ісці. Зрабіць гэта можна з дапамогай уласнага мабільнага тэлефона, падзяліўшыся сваім балансам. Даслаць ахвяраванне колькасцю 1, 2, 3, 4 ці 5 рублёў можна, зрабіўшы наступнае:

Адпраўце USSD-запыт наступнага фармату:

*363*375295105172*2# – калі Вы хочаце ахвяраваць 2 рублі;

*363*375295105172*5# – калі Вы хочаце ахвяраваць 5 рублёў;

*(апошняя лічба ў кодзе абазначае памер ахвяравання).*

Вы атрымаеце на свой тэлефон USSD-паведамленне з кодам пацвярджэння. Дашліце USSD-запыт наступнага фармату:

*363*[код пацвярджэння]#

Вы атрымаеце пацвярджэнне паспяховай аперацыі з кароткага нумару 364. З баланса Вашага тэлефона будзе спісана 1, 2, 3, 4 або 5 рублёў, у залежнасці ад таго, якую суму Вы ахвяравалі.

Увага! Максімальны памер аднаразовага ахвяравання можа складаць толькі 5 рублёў. Каб даслаць большую суму ахвяравання, неабходна паўтарыць аперацыю.

Больш падрабязную інфармацыю па правілах ахвяравання чытайце на сайце mts.by

Увага! Прапанова актуальная толькі для абанентаў МТС.

Вялікі дзякуй за ахвяраванне на падтрымку сайта Catholicnews.by! За ўсіх ахвярадаўцаў кожны месяц адпраўляецца св. Імша! Будзьма разам! Няхай Добрая Вестка заўсёды будзе ў Вашым доме!



*Рэдакцыя сайта Catholicnews.by*

Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі

Заснавальнік: мясцовае рэлігійнае аб'яднанне "Віцебская дыяцэзія Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

Выдавец: рэлігійная місія "Дабрачыннае каталіцкае таварыства "Карытас" Віцебскай дыяцэзіі Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

Галоўны рэдактар: кс. Віктар Місевіч
Тэхнічны рэдактар: Дзмітрый Лупач
Мастацкі рэдактар: Леанід Юрык
Рэдактар сайта: Марына Сінкевіч
Карэктары: Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты "Каталіцкі Веснік", перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП "Віцебская абласная друкарня", г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 2444

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 2700 экз.
Аб'ём 4 друкаваных аркушы, фармат А3
Афсетны друк
Падпісана ў друк 18.04.2019 г. у 14.35

Юрыдычны адрас: 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)25-29-31
Адрас для карэспандэнцыі: 211793, вул. Савецкая, д.1, г. Глыбокае, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(029)736-53-07
e-mail: katalickivesnik@gmail.com
http://catholicnews.by

ISSN 2224-9621



Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь